



**У студзені адбудзецца XXII з'езд компартыі Беларусі. Працоўныя нашай рэспублікі сустракаюць гэтую знамянальную падзею новымі працоўнымі поспехамі.**

**1.Група навуковых работнікаў Навукова-даследчага інстытута торфу Акадэміі навук БССР пад кіраўніцтвам кандыдата тэхнічных навук комуніста Антона Палікарпавіча Катkоўскага працуе над праблемай абясшкоджання падсмольных вод, якія атрымліваюцца пры газіфікацыі торфу.**

На здымку: **А. П. Каткоўскі і малодшы навуковы супрацоўнік Сусана Сямёнаўна Маль абмяркоўваюць у лабараторыі інстытута вынікі аналізу.**

**2. Грыгорый Іванавіч Палякоў — адзін са старэйшых рабочых інструментальнага цэха станкабудаўнічага завода «Чырвоны барэц» у горадзе Оршы. За гэты час комуніст Г. Палякоў навучыў такарнай справе шмат моладзі. Токар Палякоў зменнае заданне выконвае не ніжэй, чым на 150—200 працэнтаў. Уключыўшыся ў спаборніцтва ў гонар XXII з'езду партыі, Г. Палякоў заваяваў «Вымпел токара-пераможцы».**

На здымку: (справа налева) **комуніст Палякоў і яго вучні Н. Шынкарова і Н. Барысевіч.**

**3. Адной з перадавых трактарных брыгад Дзяржынскай МТС Мінскай вобласці заслужана лічыцца трактарная брыгада № 8, якой кіруе комуніст Аляксей Іванавіч Сяркоў. План трактарных работ брыгада ў 1955 годзе выканала на 143 працэнты. Зараз, уключыўшыся ў соцыялістычнае спаборніцтва ў гонар з'езду, трактарысты прыступілі да рамонту трактараў. Яны абавязаліся закончыць рамонт якасна і ў вызначаныя тэрміны.**

На здымку: **брыгадзір трактарнай брыгады А. І. Сяркоў і трактарыст комсамолец Вячэслаў Мазалеўскі рамантуюць трактар.** На заднім плане — **трактарыст Л. А. Байдак.**

Фото С. Чырэшкіна.

Артур ВОЛЬСКІ

# НОВЫ ГОД

Ён нараджаецца,
калі
высока ў небе ззяюць зоры,
там,
дзе шукаюць караблі
шляхоў да роднае зямлі
праз акіянскія прасторы.
Бясконцы шлях яго ляжыць
па ўсёй планеце —
ў край ад краю.
І пагранічнік на мяжы
яго
без візы
прапускае:
— Праходзь,
таварыш Новы Год, —
цябе чакае ўся краіна!..
І ён ідзе —
як часу ход —
ідзе няўхільна і няспынна.
Хвілінамі
размеран крок...
Ружовіць шчокі вецер свежы...
І вось ужо Владзівасток
агні рассыпаў на ўзбярэжжы.
А ён — далей...
Няхай вятры
байкальскім снегам слепяць вочы!..
Будаўнікоў на Ангары
павіншаваў ён апаўночы.
І зноў —
без сцежак,
без дарог
тайгу сібірскую мінае...
Палямі снежнымі пралёг
абшар славутага Алтая.
Спакойна дрэмле цаліна
пад белай коўдрай снегавою,
чакае трактароў яна,
што павядуць плугі вясною.
І ён заходзіць у барак
пад спеў бадзёры і вясёлы,
каб абвясціць усім:
— Пара
падняць келішкі,
навасёлы!..
Ён завітае ў кожны дом,
у кожнай хаце ён пабудзе
і тост узніме за сталом
на шчасце
ўсім
працоўным людзям.
А з-за абшараў снегавых
плывуць насустрач камяніцы...
Вось ён
на вуліцах Масквы,
вось Новы год
ужо ў сталіцы.
Ён тут на плошчу павярнуў
пад промні зор,
у неба ўзнятых,
і незаўважана крануў
рукою стрэлкі на курантах.
Плыве,
плыве ўрачысты звон,
і гэтак кажуць у народзе:
— Нямала будзе ясных дзён
у новым
і шчаслівым
годзе!..



Лыжная прагулка.
Фота М. Ананьіна.

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.
№ 1 (34).
Студзень.
1956.

# НАРОДЫ — СЯБРЫ





Шмат замежных дэлегацый пабывала ў Індыі. Але ніколі яшчэ прыезд замежных гасцей не ператвараўся ў сапраўднае свята ўсяго індыйскага народа, як гэта было тады, калі ў Індыю з візітам дружбы прыбылі пасланцы совецкага народа — Старшыня Совета Міністраў СССР Н. А. Булганін і Член Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР Н. С. Хрушчоў.

Паміж індыйскім і совецкім народамі здаўна існавалі прыязныя адносіны. На глебе гэтых прыязных адносін у апошні час пачала нараджацца дружба двух вялікіх народаў. І цяпер кіраўнікі совецкага народа прыехалі ў Індыю, каб яшчэ больш умацаваць тую дружбу і ўзаемаразуменне, пачатак якой паклала наведванне Совецкага Саюза ў чэрвені мінулага года Прэм'ер-Міністрам рэспублікі Індыі Джавахарлалам Неру.

У асобе совецкай дэлегацыі індыйскі народ убачыў дзяржаўных дзеячоў зусім іншага тыпу, чым яму даводзілася бачыць да гэтага часу ў асобе дзяржаўных дзеячоў капіталістычных краін. Шчырая павага да народа, — якойбы нацыянальнасці ён ні быў, — глыбока кранула сэрцы людзей. Нездарма адзін з бірманскіх дзеячоў у гутарцы з совецкай дэлегацыяй расчулена сказаў: «Ніколі яшчэ ніводзін госць з Захаду не гаварыў нам, што мы роўныя з еўрапейцамі».

Совецкая дэлегацыя гасціла ў Індыі каля трох тыдняў. За гэты час яна сустракалася з прадстаўнікамі розных слаёў грамадства. І ўсюды яна была жаданым госцем, усюды яе сустракалі з нязменнай гасціннасцю, з той шчырасцю, з якой сустракаюць толькі сапраўдных сяброў. У які-б штат, горад ці сяленне ні прыязджалі совецкія дэлегаты, усюды ўзнікалі шматтысячныя мітынгі, на якіх індыйскі народ выказваў свае самыя шчырыя сімпатыі да совецкага народа. Усе імкнуліся як найлепш пазнаёміць гасцей са сваім жыццём і бытам, з дасягненнямі сваёй прамысловасці і сельскай гаспадаркі, навукі і культуры. Шчырая зацікаўленасць гасцей жыццём народа, бескарыслівае, сапраўды брацкае жаданне дапамагчы яму, падзяліцца з ім сваім немалым вопытам — усё гэта нарадзіла ў сэрцах індыйцаў задушэўныя, поўныя вялікага пачуцця словы: «Рускія і індыйцы — браты», якімі сустракалі і праводзілі гасцей па ўсёй краіне.

Ад'язджаючы з Індыі, Н. С. Хрушчоў сказаў на развітанне: «...у маім сэрцы вырасла і ўмацавалася гарачае пачуццё любві да Індыі і яе народа. Мы радуемся таму, што знайшлі тут так многа вялікіх і добрых сяброў, што яшчэ больш умацавалася дружба паміж нашымі краінамі».

У выніку паездкі совецкай длегацыі падпісана Сумеснае Совецка-Індыйскае Камюніке аб развіцці эканамічнага супрацоўніцтва паміж СССР і Індыяй. Гэтае супрацоўніцтва будзе весціся не толькі на аснове поўнай роўнасці і ўзаемнай выгады, але і ў інтарэсах міру ва ўсім свеце.

Сардэчна і гасцінна сустрэлі Н. А. Булганіна і Н. С. Хрушчова народы Бірмы і Афганістана. У гэтых сустрэчах яскрава праявілася іх гарачая любоў да нашай краіны, да совецкага народа — творца і міралюбца.

Наведванне совецкай дэлегацыяй Бірмы і Афганістана яшчэ больш умацуе дружбу паміж бірманскім, афганскім і совецкім народамі, якая і надалей будзе развівацца на аснове поўнай роўнасці і ўзаемаразумення, у інтарэсах умацавання міру.



На здымку (зверху уніз): **Сустрэча Старшыні Совета Міністраў СССР Н. А. Булганіна і члена Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР Н. С. Хрушчова на аэрадроме Палам. У час прыёму ў Прэзідэнта Індыі. Старшыня Совета Міністраў СССР Н. А. Булганін і член Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР Н. С. Хрушчоў вітаюць прышоўшых на мітынг.**

(Фотахроніка ТАСС.)



# У НАРОДНАГА ПАЭТА РЭСПУБЛІКІ

У сваіх лістах у рэдакцыю нашага часопіса маладыя чытачы часта пытаюць, над чым працуе цяпер Якуб Колас.

Карэспандэнты часопіса «Маладосць» наведалі народнага паэта рэспублікі і папрасілі яго коратка расказаць аб сваёй творчай працы ў апошні час.

«Нядаўна, — паведаміў Якуб Колас, — я напісаў два раздзелы паэмы «На шляхах волі».

Гэта вялікі незакончаны твор, які пісаўся на працягу цэлых дзесяткаў гадоў. Пачатак яго быў надрукаваны ў часопісе «Полымя» № 3 за 1926 год. Паэма друкавалася ў гэтым часопісе на працягу 1926—35 гг.

Прайшло шмат часу ад тых дзён, калі я прыпыніў работу над паэмай. Былі на гэта, вядома, важкія прычыны. І адной з асноўных прычын была тая акалічнасць, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны загінулі рукапісы і сшыткі, у які я запісваў раздзелы паэмы.

Апошні раздзел яе, які я напісаў у даваенныя гады, не быў надрукаваны і загінуў. Я вымушаны быў яго пісаць нанава. Доўгі час мне не ўдавалася адшукаць паасобныя нумары часопіса, дзе друкаваўся гэты твор. Цяпер я збіраюся грунтоўна перагледзець паэму і прывесці яе да паэнага ладу».

Паэма «На шляхах волі» вялікая, у ёй каля трыццаці раздзелаў, шмат асоб, сітуацый. Звяртаючыся да аднаго з герояў твора, Якуб Колас піша:

Жыццё, ты вечна, ты цікава.
Як многа ставіш нам задач!..
Ну, што-ж? засмейся ці заплач,
Ідзі налева ці направа,
Куды пацягне цябе справа,
Ты-ж толькі праўду ў ёй убач.
Ты разгадай, азнач плынь тую,
Што мкне і гоніць люд кудысь,
Ды падымае яго ўвысь,
Знайдзі ў ёй нітку залатую,
На першы погляд хоць малую,
Як першы крок твой быў калісь.
Ідзі далей, не стой, не кісні
На адным месцы, як гніляк,
Па гнілі-бросні — раз і гак!
Няхай маланкай думка блісне
І мрок разгоніць той, што вісне
Над галавой тваёй, юнак!

Працяг паэмы «На шляхах волі» друкуецца ў студзеньскім нумары часопіса «Полымя».

# БУДАВАЦЬ ХУТКА, ТАННА, ПРЫГОЖА

**Інтэрв'ю „МАЛАДОСЦІ"**

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» папрасіла галоўнага архітэктара горада Мінска Л. П. Мацкевіча адказаць на рад пытанняў, звязаных з далейшым будаўніцтвам горада. Ніжэй мы друкуем пытанні і адказы на іх т. Мацкевіча.

Пытанне. ЦК КПСС і Совет Міністраў СССР ускрылі рад памылак, допушчаных архітэктарамі пры будаўніцтве гарадоў. Якія памылкі выяўлены ў планіроўцы і будаўніцтве Мінска?

Адказ. Не пазбеглі празмернасцей, некрытычнага перанясення старых форм у наш час і архітэктары, якія працавалі над праектамі будынкаў Мінска. Мы лічым, што найбольш допушчана памылак пры будаўніцтве Палаца культуры. Будынак перагружаны рознымі ўпрыгожаннямі, якія надта дорага каштавалі. Многа выдаткавана грошай на ўнутранае афармленне Палаца. Аўтары не змаглі пазбегнуць недахопаў ва ўнутраным планаванні пакояў. Ёсць пакоі дрэнна асветленыя, бо знешнія формы будынка не дазвалялі рабіць большых вокан. Допушчаны празмернасці і архітэктарам т. Каралём пры будаўніцтве Галоўпаштамта. Але асабліва захапляўся паказной прыгажосцю архітэктар Гергарт. Прымяненне балюстрад, лоджый, лепкі — усё гэта патрабавала вялікіх выдаткаў. У той-жа час вельмі мала ўвагі ўдзялялася зручнасці кватэр.

Пытанне. Што робіцца па ажыццяўленню пастановы ЦК КПСС і Совета Міністраў СССР «Аб ліквідацыі празмернасцей у праектаванні і будаўніцтве».

Адказ. У некаторых грамадзян, ды нават і ў асобных архітэктараў склалася думка, што цяпер мы будзем будаваць толькі дамы-каробкі. Гэтая думка памылковая. Мы павінны будаваць яшчэ больш прыгожыя дамы, чым будавалі да гэтага часу.

Што мы робім зараз? Толькі перагляд некаторых праектаў дасць эканомію каля 10 мільёнаў рублёў. Архітэктура будынкаў ад гэтага не пагоршыцца, а палепшыцца.

Мы распрацоўваем вялікую колькасць тыпавых праектаў, па якіх будуць будавацца дамы. Звернута ўвага на зручнасць унутранай планіроўкі. Захапляючыся знешнім выглядам будынка, мы забывалі пра чалавека, які будзе ў ім жыць. У кватэры часта пасялялі па 2—3 сям'і, якія вымушаны былі гатаваць ежу на адной маленькай куханьцы. А хіба нельга зрабіць так, каб кухня, санвузел былі на адну сям'ю? Каб у кухні жыхар знайшоў стол, шафу, каб у ваннай былі люстры, адпаведная ёй абліцоўка сцен, каб пакоі былі зручнымі і г. д. На ўсё гэта звяртаецца зараз самая вялікая ўвага.

Белдзяржпраект пачаў распрацоўваць тыпавыя праекты жылых дамоў. Архітэктары звяртаюць увагу і на знешні выгляд будынка. Мяркуецца праводзіць аддзелку керамічнымі плітамі, цаглянымі блокамі і сілікатнай цэглай.

Каб весці індустрыяльныя метады будаўніцтва, нам здаецца мэтазгодным сканцэнтраваць будаўніцтва ў горадзе ў адных руках. Апрача таго, трэба пераходзіць да пакварталынага будаўніцтва. Усё гэта дасць магчымасць выдаткоўваць на будаўніцтва менш сродкаў.

Многія думаюць, што празмернасці не так ужо дорага каштавалі дзяржаве. Прывяду толькі адну лічбу. Калі-б будаўніцтва ў Совецкім Саюзе ажыццяўлялася па тыпавых праектах, дык толькі за кошт эканоміі за год можна было-б выконваць гадавую праграму будаўніцтва Масквы і Ленінграда. Вось што такое празмернасці.

Пытанне. Як будуць выглядаць вуліцы і кварталы Мінска, пабудаваныя па новых праектах?

Адказ. Вельмі прыгожа. Відавочна, тут хвалюе другая чарга праспекта імя Сталіна? Як яна будзе забудоўвацца? Часткова па старых, перагледжаных праектах, часткова па новых, тыпавых. Аднак другая чарга павінна быць яшчэ прыгажэйшай. Вось над гэтым і працуе творчая думка.

Як будуць выглядаць асобныя кварталы?

Асабіста я, напрыклад, працую над рэканструкцыяй плошчаў Волі і «8 сакавіка» з выхадам на Соўгасную вуліцу. Гэта будзе квартал з шырокай вуліцай, амаль увесь забудаваны тыпавымі дамамі. Разам з гістарычнымі помнікамі гэтых месц, са спартыўнымі пабудовамі гэта будзе адзін з прыгажэйшых кварталаў. Будаўніцтва ў гэтым раёне намечана пачаць з 1957 года.

Пытанне. Як і дзе будзе ажыццяўляцца будаўніцтва загарадных пасёлкаў?

Адказ. У гэтым годзе будзе закончана будаўніцтва Мінскага возера ля Ждановіч. Вось там, вакол возера, і будуць пабудаваны дачныя пасёлкі. Іх будаўніцтва будзе ажыццяўляцца па тыпавых праектах працоўнымі горада. Месцы там вельмі прыгожыя: лес, возера, рака. Для зручнасці грамадзян будуецца дарога. Намечана электрыфікацыя чыгункі. Возера будзе мець пляж, лодачныя станцыі, стаянкі для машын. У пасёлку будуць магазіны, вадаправод. Будзе арганізаваны аўтобусны рух.

Архітэктары горада з задавальненнем сустрэлі пастанову ЦК КПСС і Совета Міністраў СССР «Аб ліквідацыі празмернасцей у праектаванні і будаўніцтве». Яны зробяць усё для таго, каб будаваць дамы прыгожа, танна і хутка, ствараць для працоўных зручныя, утульныя кватэры.





# ЗА ТЫХ, ХТО НА ПАСТУ

**Яўген ВАСІЛЁНАК**

**Апавяданне**

Мал. Г. Паплаўскага.

Сёння ён прышоў зноў. Падаючы ў акенца новенькі, хрумсткі рубель, ён сказаў:

— Калі ласка, адзін бланк для тэлеграмы...

Таня адразу пазнала яго голас. Гэтыя словы ён гаварыў заўсёды, — адны толькі гэтыя словы. Больш ён не дадаваў нічога, забываючыся нават падзякаваць за пададзены яму трапяткою танінай рукою бледнашэры лісточак паперы, лісточак, які хоць і каштаваў адных толькі дзве капейкі, але быў для тых, каму пасылаўся, даражэй часам за мільёны.

Чамусьці ён ніколі не меў дробнай манеты і падаваў заўсёды рубель, або траячку ці дзесятку. Аднаго разу ён даў нават соценную паперку, і Тані прышлося абегаць увесь тэлеграф, каб размяняць гэтыя грошы і даць яму рэшту.

Сёння яе блакітная талерачка для разменнай манеты была амаль пустая. Таня не магла даць рады нават ягонаму рублю. А ісці мяняць грошы ёй не было калі, бо перад акенцам стаяла доўгая чарга.

— У мяне няма рэшты, — з жалем прамовіла Таня. — Можа ў другім акне возьмеце.

— Нічога, я пачакаю, — адказаў ён і трошачкі адышоў ад акна, каб нікому не замінаць.

Выдаючы бланкі, прымаючы тэлеграмы, пішучы квітанцыі, Таня старалася не глядзець у яго бок. Але і без таго яна ведала, што на маладым чалавеку мяккі цёмны капялюш, карычневае дэмісезоннае паліто, белы лёгкі шалік. І капялюш, і паліто, і шалік былі яўна не па сезону, але ён, відаць, не адчуваў холаду. Не заўважалася, ва ўсякім разе, каб ён курчыўся, ці каб у яго быў пасінелы твар, або каб яму хацелася пацерці рукі адну аб адну.

Ён амаль штодня прыходзіў на тэлеграф. Першы раз ён з'явіўся тут два тыдні таму назад. Таня нават памятае той дзень, — гэта было 16 снежня. Не, яна запомніла гэта, канешне, выпадкова, проста таму, што тады здарылася ў яе маленькая непрыемнасць: перастаўляючы лічбы на штэмпелі, Таня замест «16» паставіла «17» і цэлую гадзіну штэмпелявала квітанцыі заўтрашнім днём, пакуль нейкі педантычны кліент не звярнуў на гэта ўвагу.

Узяўшы ў Тані бланк, малады чалавек адыходзіў да століка, садзіўся на крэсла, вымаў з кішэні аўтаручку і пачынаў пісаць. Пісаў ён звычайна многа і доўга, абдумваючы, напэўна, кожнае слова. Часам ён камечыў лісточак, браў у яе новы і зноў пачынаў пісаць.

Потым ён неяк загадкава знікаў. Ніколі ён не аддаваў сваіх тэлеграм ёй. Відаць, яму заўсёды выпадала аддаваць іх у другія акенцы.

Таня не лічыла сябе дужа цікаўнай. Але тут яе часам пачынала разбіраць цікаўнасць. Каму і навошта піша ён столькі тэлеграм? Хто той адрасат, які атрымлівае іх? І ці адзін ён, гэты адрасат, ці мо' іх некалькі?.. Дзявоцкая сарамлівасць не дазваляла ёй абыйсці сябровак па тэлеграфу і пацікавіцца наконт гэтых тэлеграм, таму пытанні яе заставаліся без адказу.

Ён усё яшчэ стаяў ля акенца і ўпарта не хацеў ісці да іншых, дзе яму можа адразу далі-б рэшту. Ат, няхай сабе пастаіць, калі ў яго гэтулькі ўжо многа вольнага часу!

Чарга амаль не змяншалася. Сёння, напярэдадні Новага года, людзям абавязкова трэба было паслаць віншавальныя тэлеграмы. Адкладаць такую справу на заўтра ніяк нельга. Праўда, гэта можна было зрабіць і загадзя, а не таўчыся ў чарзе іменна сёння, бо датэрміновы прыём віншавальных тэлеграм адкрыты даўно. Але хіба людзі слухаюцца голасу жыццёвай мудрасці? Яны заўсёды ўсё адкладваюць на самую апошнюю гадзіну, ім заўсёды некалі.

Да акенца праціснуўся каржакаваты чырвонатвары мужчына ў вялікай пыжыкавай шапцы. Прыязна выскаліўшыся на ўвесь рот, ён прамовіў:

— Даражэнькая, будзьце ласкавы, тэрміновую!

Тэрміновыя прымаліся без чаргі, і таму ніхто не стаў пярэчыць яму. Але мужчына, прасунуўшы сваю тэлеграму ў акенца, палічыў неабходным пусціцца ў тлумачэнні:

— Гэта-ж ажно ў Алма-Ату. А там, самі ведаеце, праз поўгадзіны ўжо і Новы год будзе. Яны-ж на цэлыя тры гадзіны раней за нас жывуць.

Падлічваючы колькасць слоў, Таня машынальна прачытала тэлеграму. Уласна кажучы, кожную тэлеграму ёй трэба было чытаць абавязкова, — каб быў правільны адрас, каб не было памылак або апісак у тэксце. Яна, як патрабавала яе служба, абавязана была далучацца да чужых таямніц. Чырвонатвары, не малады ўжо мужчына меў, аказваецца, смешнаватае імя Вовік: Іменна так ён падпісаўся пад тэлеграмай. Вовік паведамляў сваёй «кошачцы», якая звалася Аўдоццяй Варфаламееўнай, што атрымаў кватэру з трох пакояў, і прасіў не сумаваць без яго ў Алма-Аце на Новы год. «Падрабязнасці пісьмом», — абяцаў ён у канцы.

А малады чалавек усё стаяў ля акенца. З нейкім вінаватым выглядам ён упарта чакаў, пакуль у Тані набярэцца дробязі на рэшту. Але неяк здарылася так, што плаціць людзям за тэлеграмы прыходзілася толькі круглымі сумамі. Вось і гэтаму лысеючаму Вовіку яна сказала:

— Дваццаць два рублі.

— Дзякую, даражэнькая! — зноў выскаліўся мужчына. Хуценька разлічыўшыся, ён падхапіў з падлогі сваю туга напакаваную «авоську» і імкліва панёсся да выхаду.

З таніных рук ва ўсе канцы краіны ляцелі тэлеграмы, у якіх людзі прапаноўвалі сэрцы, патрабавалі ўзаемнасці, абяцалі вернасць да магілы. І амаль кожная тэлеграма заканчвалася пацалункам... Самой Тані ніхто ніколі тэлеграм не слаў. Ніхто нічога ёй не прапаноўваў, ніхто нічога ад яе не патрабаваў, ніхто нічога не абяцаў. Чытаючы па абавязку службы чужыя тэлеграмы, Тані часцяком рабілася неяк сумнавата. І яна заўсёды здзіўлялася, адкуль гэта на свеце столькі шчаслівых людзей!

Сама яна была, канешне, нешчаслівая. Бо калі было-б інакш, хіба давялося-б ёй дзяжурыць іменна сёння?! Зараз палова дзесятай. Праз дзве з паловай гадзіны — Новы год! Людзі цудоўна сустрэнуць яго. Чокнуцца, прагучаць тосты, зайграе музыка, закруцяцца ў танцы пары. Адны будуць у тую

хвіліну ў цесным сямейным крузе, другія — у гасцях у сяброў, трэція пойдуць на клубную вечарынку, а іншыя — на баль-маскарад. І ўсім будзе весела, бестурботна, шчасліва. Адна яна будзе сядзець тут, за сваім акенцам, аж да раніцы. Нябось, яе сяброўцы Ніне Самахвалавай не прыдзецца адмаўляцца ад свята. Яна сваё ўжо адпрацавала, цяпер яна вольная, сама сабе гаспадыня...

— Тады і мне тэрміновую, — прамовіла жанчына з самага канца чаргі і паціху, сама сабе, дадала: — А то гэтак і Новы год сустрэнеш тут, у чарзе.

— Мне тады таксама! — сказаў высокі афіцэр-артылерыст, які стаяў у чарзе першым. — Самую найтэрміновую!

Сёння ўсе спяшаліся. Цікава, аднак, чаму нікуды не спяшаецца ён? Стаіць сабе ціхенька ля акенца, і хоць-бы адно слова нецярплівасці выказаў, хоць-бы адным рухам выявіў неспакой або хваляванне. Няўжо-ж ён не бачыць, што цяпер у яе досыць ужо дробных грошай?

— Вам адзін бланк? — звярнулася да яго Таня.

— Але, адзін! — нібыта раптам спахапіўшыся, гучна сказаў ён і зноў прасунуў у акенца свой злашчасны рубель.

Яна адлічыла яму рэшту, дала бланк. Ён павольна, быццам з неахвотай, пайшоў ад акенца, а яна ўзяла ў чарговага кліента тэлеграму і занялася сваёй справай. Але і не гледзячы на яго, Таня бачыла, што ён сеў на сваё звычайнае месца за сталом, які стаяў насупраць яе акна, павольна выняў аўтаручку, паспрабаваў пяро на лісточку паперы і пачаў запаўняць тэлеграму.

Гадзіннік, што вісеў на сцяне насупраць, паказваў дзесяць. Таня міжвольна ўздыхнула.

Праз поўгадзіны чаргі ўжо амаль не было, а ў адзінаццаць да акенца толькі зрэдку падыходзілі адзіночныя наведвальнікі.

Нечаканая перад акенцам вырасла Ніна Самахвалава. Яна была расчырванелая ці ад марозу, ці ад радаснай узрушанасці, якой поўнілася ўся яе істота. Папраўляючы адной рукой маленечкі шарсцяны капялюшык, які закрываў толькі палову галавы, а другую руку працягваючы Тані, Ніна хуценька засакатала:

— Танечка, я да цябе на хвілiначку. Віншую, і ўсё такое іншае! А сама я пабегла... Ты нізавошта не здагадаешся, куды я запрошана!

— На баль? — стаіўшы дыханне, спытала Таня.

— Фу, на баль!.. — паморшчылася Ніна. І пасля кароткай паўзы ўрачыста паведаміла: — Я запрошана да Валерыя Вітольдавіча!

Валеры Вітольдавіч быў узыходзячай зоркай на артыстычным гарызонце, і таму не дзіўна, што Ніна адчувала сябе на сёмым небе.

«І яна от шчаслівая. І ўсе наогул шчаслівыя...» — падумалася Тані. Павекі яе часта-часта замаргалі, у горле запяршыла.

— Мне так шкада цябе, так шкада! — зноў засакатала Ніна Самахвалава. — Гэта-ж падумаць!. Але ты ведай, кожны бакал я буду ў думках падымаць за цябе. Ну, бывай! З Новым годам, з новым шчасцем!

Выпісваючы нейкаму чыгуначніку квітанцыю, Таня так націснула на аловак, што той з трэскам зламаўся, і кончык графіту скочыў высока ўгару.

Яна і на гэты раз не заўважыла, у каторае акенца ён аддаў сваю тэлеграму і калі ён знік. Зірнуўшы крадком на столік, за якім яшчэ нядаўна сядзеў ён, Таня ўбачыла, што столік пусты.

Адна сцяна залы выходзіла вокнамі на вуліцу. Таня старалася не глядзець у той бок. Там, за вокнамі, ярка палалі ліхтары, зіхацела ілюмінацыя, у розных напрамках імкліва, ледзь не подбегам, крочылі людзі... Не, не трэба глядзець туды!



## Погляд у будучыню

**Новы год! Новыя планы, новыя задумы! Сёлетні новы год — пачатак новай пяцігодкі, якая яшчэ больш наблізіць нас да камунізма. Радасна падвесці вынікі. У 1954 годзе я закончыў дзесяцігодку. Многа было ў мяне шляхоў, але я выбраў адзін — завод. І не раскайваюся. За паўтара года я набыў выдатную спецыяльнасць гальваніста, цяпер выконваю план на 220 — 250 працэнтаў.**

**А што прынясе новая пяцігодка?**

**Ёсць у мяне запаветная мара. За наступныя пяць год думаю закончыць завочна Маскоўскі політэхнічны інстытут. Буду прадаўжаць работу над удасканаленнем працэса гальванізацыі.**

**А самае галоўнае — хачу заслужыць права называцца членам вялікай партыі камуністаў.**

**Комсамол навучыў мяне дабівацца здзяйснення мар. Думаю, што намечанае мною на пяцігодку я не толькі выканаю, але і перавыканаю.**

**Кім СТРЭКАЛАЎ,**
**гальваніст Віцебскага завода заточных станкоў.**

А палове дванаццатай зала была ўжо зусім пустая. Больш ніхто на тэлеграф не заходзіў. Усе тутэйшыя павіншавалі ўжо ўсіх тамашніх, і цяпер ім засталося толькі чакаць, пакуль стрэлкі гадзінніка сыйдуцца разам, а тады пачаць ужо і тут віншаваць адзін аднаго.

Хутчэй, хутчэй прыходзь, Новы год!

Трэба было падлічыць сённяшнюю выручку. План яна, безумоўна, перавыканала, і цяпер прэмію ёй дадуць абавязкова. А вось Ніне Самахвалавай пра прэмію і думаць няма чаго. За месяц Ніна не зрабіла і паловы таго, што зрабіла яна, Таня. Ды і ў астатніх прыёмшчыц, здаецца, паказчыкі не такія добрыя, як у яе. Але брацца за падлікі зараз Тані не хацелася. Да дванаццаці засталіся ўжо лічаныя мінуты, — няхай хоць гэтыя мінуты будуць належаць ёй. Яна прыдумае зараз тост... і ў дванаццаць скажа яго сама сабе.

— Прабачце... — пачула яна раптам нечы дужа знаёмы голас. — Вазьміце, калі ласка, тэлеграму.

Значыцца, ён прышоў зноў. Таня адразу пазнала яго голас. Вось дзівак! Пісаў, пісаў тэлеграмы, а самую галоўную, відаць, і забыўся напісаць.

Яна паглядзела на яго. Ён меў, як і даўней, усё той-жа вінаваты выгляд. Капялюш і паліто ў яго былі злёгку зацярушаны снегам. Некалькі іскрыстых сняжынак ляжала на брывах, яны так і не раставалі...

— Давайце, хутчэй! — строга сказала Таня.

Тэлеграма была кароткая, вельмі кароткая. У ёй было напісана: «Ад самага шчырага сэрца — з Новым годам вас, з новым шчасцем!»



Тэкст быў, канешне, самы звычайны, такі, які і павінен быў быць сёння. За змену яна адправіла гэткіх тэлеграм уга колькі!.

Так, адправіла яна іх многа. А сама не атрымала ніводнай.

— А дзе-ж адрас? — схамянулася раптам Таня. — Каму вы пасылаеце яе?

— Вам.

Ён паглядзеў ёй у вочы і пачырванеў.

— Вам, — паўтарыў ён. Потым, спяшаючыся, дастаў з кішэні яшчэ цэлы пук тэлеграфных бланкаў, скрозь спісаных адным і тым-жа буйным мужчынскім почыркам. — І гэта — таксама вам.

— Мне?.. — ціха спытала Таня і таксама пачырванела. Аказваецца, ён нікуды не пасылаў тыя свае тэлеграмы-лісты. Усе яны прызначаліся ёй адной...

— Усе вам. Вы не будзеце крыўдаваць?

Яна нічога не паспела адказаць. Якраз у гэтую хвіліну на радыёвузле ўключылі магутны дынамік, што вісеў над уваходам у залу. З дынаміка паплыў меладычны перазвон крэмлёўскіх курантаў, потым гучна бумкнуў раскацісты ўдар, за ім другі, трэці...

— Бум!.. Бум!.. Бум!.. — велічна і ўрачыста абвяшчаў прыход новых здзяйсненняў крэмлёўскі гадзіннік.

— А ведаеце, гэта добра, што вы сёння дзяжурыце, што вы на пасту, — сказаў ён.

— Добра? Чаму — добра?

— Бо інакай хіба здолеў-бы я сустрэць Новы года разам з вамі? — Ён усміхнуўся. — Таму я за тых, хто на пасту!

«А такіх сёння многа, — нечакана падумала Таня. — Напрыклад, на чыгунцы — колькі іх!»

— Бум!.. Бум!.. — біў і біў гадзіннік.

А ў вокнах раптам асляпляльна заззяла дзівоснае зарыва. У ім былі самыя розныя колеры — чырвоныя, зялёныя, белыя, сінія. Гэта ў неба шугануў святочны феерверк.

Наставаў Новы год...

## Погляд у будучыню

**Пасля сканчэння Беларускага дзяржаўнага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна, я ўжо два гады працую інжынерам па сельскагаспадарчых машынах ў Аршанскай МТС. Мой сябра Сяргей Цыганкоў — камбайнерам.**

**Што даў нам пражыты 1955 год?**

**Як і для кожнага савецкага чалавека, для нас пройдзены год быў годам радаснай, творчай працы на карысць сваёй сацыялістычнай Радзімы. У калгасах з нашай дапамогай вырашчаны добры ўраджай, павысіліся прыбыткі ад жывёлагадоўлі.**

**Наша МТС няспынна папаўняецца новай сельскагаспадарчай тэхнікай. Увосень прыбыло 14 бульбаўборачных камбайнаў, іх хутка асвоіла моладзь. У ліку механізатараў, якія авалодваюць сумежнымі прафесіямі, — комсамолец Сяргей Цыганкоў.**

**Знамянальнай падзеяй мінулага года для нас было тое, што райком комсамола даў нам рэкамендацыі для паступлення ў кандыдаты партыі.**

**Якія нашы планы на будучае?**

**У мяне мара — паступіць у аспірантуру пры Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. Мой сябра Сяргей гаворыць, што ён думае ў новым, 1956 годзе давесці сезонную выпрацоўку на самаходным камбайне «С-4» да 200 працэнтаў, пабываць у Маскве на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы. Разам з тым камбайнер паставіў сваёй мэтай у бліжэйшыя гады атрымаць сярэднюю адукацыю, каб стаць сапраўдным спецыялістам любімай справы.**

**Упэўнены, што нашы планы збудуцца. У нашай краіне ажыццяўляюцца самыя смелыя планы і задумы.**

Мікола **КЛЯШЧЭУНІК**,
**інжынер.**
Сяргей **ЦЫГАНКОУ**,
**камбайнер.**

**Аршанская МТС**
**Віцебскай вобласці.**



# З комсамольскім прывітаннем!

**Л. КАРМАЛІТАВА**

На кніжных паліцах, на стале — грудкі пісьмаў. Белыя, блакітныя, ружовыя канверты. Штампы гарадоў і сёл розных куткоў нашай краіны: Данбас, Урал, Чарнігаўшчына, цалінныя землі. Грузія, Сталінград, Масква, Літва, Архангельск. З якіх толькі месц, з якіх гарадоў не ідуць сюды пісьмы!

З чарговай поштай у хату Ніны Каско — звеннявой ільнаводчага звяна калгаса «Чырвоны партызан» — увайшоў паштальён. Ён паклаў на стол цэлы стус пісьмаў. Ніна ажно сумелася, а потым хітравата ўсміхнулася і жартам спытала ў яго:

— Вам, мабыць, цяжка насіць па стольк?

— Хоць і цяжкавата, але як-небудзь спраўлюся, — у тон ёй адказаў паштальён.

І вось так кожны дзень. А раней, дык прыходзіла па 200—300 пісьмаў адразу!

Ніна не паспявае нават прачытаць усе.

Позна ўвечары да яе прыходзяць дзяўчаты, і тады яна знаёміць іх са сваімі далёкімі сябрамі.

— «Добры дзень, наша незнаёмая далёкая сяброўка Ніна! Шлюць табе сардэчнае гарачае шахцёрска-комсамольскае прывітанне маладыя гарнякі з далёкай Сібіры.

Мы прачыталі артыкул у «Комсомольской правде» аб вашым высокародным учынку, дасягненнях у рабоце, грамадскім жыцці і вучобе. Нам радасна за вас, і мы жадаем мець з вамі перапіску», — уголас чытае Ніна.

Пішуць маракі, воіны Савецкай Арміі, рабочыя, калгаснікі, вучні.

У многія пісьмы ўкладзены фотаздымкі, прыгожыя паштоўкі, засушаныя кветкі. Як розныя самі людзі, так і розныя іх пісьмы. Некаторыя адрасаты, хочуць, відаць, толькі пазнаёміцца з маладой дзяўчынай і, не тоячыся, пішуць аб жаданні знайсці ў асобе Ніны «друга на ўсё жыццё». Сярод такіх пісьмаў сустракаецца і стракаты малюнак сэрца, працятага кінжалам, і скрыжаванне мужчынскай і жаночай рук, і галубок з галубкай, і іншыя «эмблемы» кахання.

Але ў большасці пісьмаў відаць не простая цікавасць, не падстава завязаць знаёмства, а шчырая павага да чалавека працы, ухваленне ніпінага рашэння застацца ў калгасе.

«Вітаю Вас як адважную маладую савецкую патрыётку, якая не спакусілася работай у вялікім горадзе, а засталася працаваць там, дзе вырасла і вучылася ў школе. Пастарайцеся, каб як мага больш моладзі засталося ў родным калгасе. Жадаю Вам дамагчыся таго, чаго дасягнуў я — атрымаць за доўгую і бездакорную працу ордэн Леніна», — піша ёй чалавек, які пражыў, відаць, доўгае, плённае працоўнае жыццё.

Адказаць на ўсе пісьмы Ніна не мае магчымасці: іх сабралася некалькі тысяч. Але і пакінуць без адказу многія пісьмы таксама нельга.

Нельга не адказаць гэтаму цудоўнаму лейтэнанту-земляку беларусу, які ахоўвае граніцы нашай Радзімы (Ніна часта глядзіць на яго фото). Нельга не паслаць адказ трактарысту з цалінных зямель у далёкі Казахстан, шахцёрам Данбаса, уральскім гарнякам...

Але перш за ўсё Ніна вырашыла адказаць на маленькае пісьмо свайго аднагодка. Хто ведае, можа яно дапаможа хлопцу знайсці сваю дарогу ў жыцці! Ніне вельмі хочацца, каб дапамагло.

Васіль Пятроў, які скончыў у мінулым годзе сярэднюю школу, просіць у Ніны парады. Ён зайздросціць, што Ніна «на сваім месцы» (так называўся прысвечаны Ніне артыкул у «Комсомольской правде). А вось ён, Пятроў, не мае асаблівага жадання працаваць, а ў інстытут паступіць яму не ўдалося. Чалавек ён непрыкметны, вучыўся нядрэнна, але і не вельмі добра. Пасля службы ў арміі не хацелася заставацца на ўтрыманні старых бацькоў. Ды і сумленне не дазволіла-б. Пайсці ў калгас ці соўгас?.. Пятроў няўпэўнены, ці здолее ён там апраўдаць сябе, бо яшчэ нідзе не працаваў. «Як знайсці сваё месца ў жыцці? Гэтае пытанне хвалюе многіх, бо многія ў такім становішчы, як я», — заканчвае юнак сваё пісьмо.



**Ніна Каско адказвае на пісьмы.**

Ніна задуменна глядзіць на святло лямпы на стале. Яна піша Пятрову, расказвае яму аб сваіх сумненнях, аб тым, што і ёй самой хацелася спачатку быць настаўніцай, што падумвала яна нават і аб тым, каб прысвяціць сваё жыццё спорту (яна-ж мае нядрэнныя дасягненні па лёгкай атлетыцы), але ўсё-такі нарэшце выбрала калгас.

«Я зразумела, што тут, у калгасе, я патрэбная. І сапраўды, мне вельмі добра. Ідзіце працаваць туды, дзе патрэбна ваша праца, — у калгас ці соўгас, на фабрыку ці на шахту, і вы будзеце задаволены. Праца прыносіць вялікую радасць, асабліва, калі бачыш яе вынікі. Спачатку, магчыма, будзе і цяжка, але калі вы навучыцеся працаваць, палюбіце працу, вы знойдзеце сваё месца ў жыцці».

Так вось і напісала Ніна Каско свайму незнаёмаму сябру. І не яму аднаму. Яна многім пісала так, бо сама не толькі розумам пераканалася ў гэтым, але і сэрцам адчула. Ёй успомніліся яе сумненні, якія нялёгка было пераадолець, успомніліся розныя размовы пасля таго, як Ніна прыняла рашэнне застацца ў родным калгасе «Чырвоны партызан».

— Бачылі?!. Старшынёва дачка на работу ходзіць! — нашэптвала суседка суседцы. — Мусіць, шкадуе бацька грошай вучыць дзеўку?

— Відаць, для таго, каб вучыцца далей, розуму нехапае, — выказвалі здагадкі іншыя, хоць і ведалі, што Ніна Каско была здольнай вучаніцай. І тым больш здзіўляліся.

А да Ніны Каско прыйшла сапраўдная радасць. Год, які яна працавала ў калгасе, прынёс радасныя вынікі. Ніну паставілі кіраваць ільнаводчым звяном. Лён вырас такі, што нават старыя жанчыны, якія шмат вырасцілі яго на сваім вяку, і тыя здзіўляліся. Толькі сама Ніна ведала — там, дзе самаадданая праца, там і поспех, там і працоўная слава чалавека, якая для яго вышэй за ўсё! І пра гэтую яе славу ведаюць не толькі ў родным калгасе, у раёне — пра яе ведаюць ва ўсім Савецкім Саюзе. Аб гэтым гавораць тыя шчырыя сяброўскія пісьмы, якія прыходзяць у яе адрас і якія нязменна заканчваюцца: «З комсамольскім прывітаннем!»

**Казлоўшчынскі раён**
**Гродзенскай вобласці.**

# Прышоўшы з работы...

Фотанарыс С. ЧЫРЭШКІНА і А. АСІПЕНКІ



Часта да дзяўчат з акардыёнам прыходзіць Ніна Шахноўская, а з ёй дзяўчаты з другіх пакояў. Спяваюць песні, прыпеўкі. На здымку (злева направа) сядзяць: Ніна Шахноўская, Валя Мазурава і Поля Калінова; стаяць: Ядзя Шаціла, Люба Жаўранкова, Вера Унецкая.

Здаўна на крутым беразе Заходняй Дзвіны стаяў манастыр святога Марка. Па задуме заснавальнікаў, манастыр, пабудаваны ў глухім месцы, павінен быў знаменаваць адыход боскіх служкаў ад усяго зямнога. Але атрымалася не па задуманаму. Манахі больш за каго другога пачалі цікавіцца ўсім зямным. Яны захапілі акаляючыя землі, развілі промыслы, і неўзабаве пад сценамі манастыра вырас пасёлак, які атрымаў потым прапахшую ладанам назву «Маркаўшчына». Праз некаторы час Бельгійскае акцыянернае таварыства пабудавала тут, побач з манастырскім паркам, ільнопрадзільную фабрыку «Дзвіна».

На світанні, калі манахі, зашыўшыся ў свае келлі, яшчэ спалі моцным сном, з пасялкoвых баракаў на фабрыку па адным і групамі цягнуліся замардаваныя людзі. З фабрыкі яны вярталіся таксама прыцемкам. Здавалася, гаспадары хаваюць убоства ад раскошы. Так было доўгія гады: манахі ўзносілі да неба малітвы ўдзячнасці за цудоўнае жыццё, а побач, за сценамі фабрыкі, гібелі сотні людзей, праклінаючы тое самае жыццё, якое для іх было страшней за пекла. Чалавек не бачыў святла, гібеў у пыле і брудзе ўсё жыццё. І калі ў яго выдавалася вольная часіна, перад ім адкрываліся дзве дарогі: адна у царкву, другая ў карчму. Маліся або пі гарэлку — другіх забаў не было.

Так жыла калісьці Маркаўшчына. Потым адна, другая, трэцяя рэвалюцыі змялі з твару зямлі старыя парадкі. Былая Маркаўшчына была перайменавана ў Пролетарскую Слабаду. Тут былі пабудаваны новыя фабрыкі, клубы, бібліятэкі, кварталы прыгожых жылых дамоў. Змяніўся не толькі знешні воблік Маркаўшчыны. Тут вырас новы чалавек з яго высокароднымі запатрабаваннямі і імкненнямі. Ён даўно перарос тых «высокакультурных» інжынераў Бельгійскага акцыянернага таварыства, якія лічылі просты рабочы люд дзікунамі. Кругагляд сучаснага рабочага, яго імкненні, запатрабаванні, інтарэсы, настолькі высокародныя, вялікія і прыгожыя, што тагачасны інжынер выглядаў-бы побач з нашым радавым рабочым адсталым чалавекам.

Мы пераканаліся ў гэтым, пабыўшы ў адным з інтэрнатаў дыванова-плюшавага камбіната, які пабудаваны на базе былой фабрыкі «Дзвіна». Фотаапарат адлюстраваў толькі некаторыя эпізоды з жыцця работніц аднаго з пакояў. У ім жывуць чатыры работніцы. Але адной з іх мы не засталі, яна паехала ў адпачынак. Знаёмімся. Нізенькая, з круглым дабрадушным тварам дзяўчына называе сябе Верай Унецкай. Яна — брыгадзір комсамольска-маладзёжнай брыгады пра-



Поля купіла новыя пласцінкі. Праслухаць іх прышлі ткачыхі Дуся Пугачова і Марыя Мядзведзева.

Дзяўчаты вывучаюць у паліт-гуртку біяграфію В. І. Леніна. Злева направа: Ядзя Шаціла, Вера Унецкая і Дуся Пугачова рыхтуюцца да заняткаў.



дзільшчыц. Тут-жа жыве член яе брыгады Поля Калінова і ткачыха Люба Жаўранкова.

Вестка аб тым, што прышлі карэспандэнты, хутка абляцела інтэрнат, і неўзабаве ў пакой прышло многа дзяўчат. Як і бывае ў такіх выпадках, спачатку размова не клеілася. Затое потым, калі разгаварыліся, загаварылі ўсе наперабой.

Усе дзяўчаты добра працуюць на камбінаце. Многія з іх маюць граматы, пахвальныя лісты. Адны вучацца ў вячэрняй школе, другія ў школе перадавога вопыту, у палітгуртках. Дзяўчаты пільна сочаць за культурным жыццём, бываюць у тэатры, кіно, некаторыя самі ўдзельнічаюць у гуртках мастацкай самадзейнасці. Вера Унецкая аказалася лепшым брыгадзірам камбіната. Пазней, праходзячы па гораду, мы ўбачылі яе партрэт на гарадской Дошцы гонару.

Валя Мазурава вучыцца ў школе.

Пакуль ішла гутарка, у пакой прышла электразваршчыца Ніна Шахноўская, баявая, гаваркая дзяўчына. Ніна іграе на акардыёне. Пад яе музыку дзяўчаты развучваюць песні, танцуюць. У дзяўчат добрыя галасы, але ім, вядома, далёка да голасу Ядзі Шаціла, якая даўно ўдзельнічае ў харавым гуртку і часта выконвае сольныя нумары. Дзяўчаты праспявалі некалькі развучаных песень і новыя прыпеўкі. У час спявання гэтых прыпевак яны і былі сфатаграфаваны.

Колькасць насельніцтва горада ў пасляваенны час расла ў многа разоў хутчэй, чым жыллёвая плошча, бо жыллё прыходзілася будаваць занава. Можа таму цяпер, калі жыллёвы крызіс мінаваў, віцябляне так па-гаспадарску, беражліва адносяцца да сваіх кватэр. Вось і ў пакоі дзяўчат: чыста, утульна. Пакой абсталяваны так, што ў ім можна культурна, добра адпачыць. Ёсць радыё, этажэркі для кніг, гульні. Пакой укамплектаваны так, што ўсе жыхары працуюць у адной змене. Прышоўшы з работы, дзяўчаты адпачы-

У студыі радыёкамітэта. Вера Унецкая праслухоўвае запіс свайго выступлення.



Ядзя Шаціла — актыўная ўдзельніца харавога гуртка.










**Мінскі політэхнічны інстытут — кузня совецкіх інжынераў. На тэрыторыі, якая займае цэлы вялізны квартал, размешчаны шматлікія вучэбныя карпусы, майстэрні, інтэрнаты, клуб. З самага ранку да позняй ночы сотні студэнтаў авалодваюць тут самымі рознастайнымі ведамі. Юнакі і дзяўчаты вывучаюць аўтатрактарную справу і праблемы сучаснай атамістыкі, тэорыю і практыку перадачы электраэнергіі на вялікія адлегласці і вытворчасць будаўнічых матэрыялаў, тарфяную справу і палітэканомію.**

**За гады свайго існавання політэхнічны інстытут імя Сталіна даў краіне тысячы высокакваліфікаваных спецыялістаў. Інжынераў, выпускнікоў інстытута, можна сустрэць на кожным прадпрыемстве рэспублікі.**

**На здымках (зверху ўніз): 1. Студэнты аўтатрактарнага факультэта на занятках. Заняткамі кіруе лаурэат Сталінскай прэміі Г. М. Кокін, знатны канструктар рэспублікі. За час вучобы студэнты павінны глыбока авалодаць трактарнай справай, не толькі добра ведаць тэорыю, але і практыку.**

**2. На гідратэхнічным факультэце. Студэнты пятага курса знаёмяцца з агрэгатам мікрагэс.**

**3. Студэнты глыбока вывучаюць марксізм-ленінізм. У інстытуце ёсць кабінет палітэканоміі. Тут для студэнтаў падабрана спецыяльная літаратура.**

Фото С. Чырэшкіна.





## З ТРЫБУНЫ З'ЕЗДУ

У дзевятнаццаты раз сабраліся разам лепшыя прадстаўнікі комсамола нашай рэспублікі, каб абмеркаваць самыя надзённыя пытанні жыцця моладзі. З трыбуны з'езду прагучалі рапарты аб новых поспехах у працы і вучобе. Комсамол Беларусі яшчэ раз пацвердзіў сваю адданасць справе Комуністычнай партыі, сваю рашучасць да канца змагацца за перамогу комунізма.

Сярод шматлікіх дэлегатаў з'езду былі і прадстаўнікі комсамола Гродзеншчыны. Баявыя і працоўныя подзвігі моладзі, што жыве на берагах Нёмана, складаюць адну са слаўных старонак у летапісу нашых дзён.

Ва ўсім саюзе вядомымі сталі поспехі маладых гродзенскіх калгаснікаў, якія вырошчваюць кукурузу, цукровыя буракі, лён. Партызанскія атрады... Заводы і фабрыкі... Калгасы, соўгасы і машынна-трактарныя станцыі... Вышэйшыя навучальныя ўстановы... Дзе толькі не праяўлена актыўная патрыятычная дзейнасць комсамольцаў Гродзеншчыны!

Дэлегаты з гонарам расказвалі з'езду пра сваіх сяброў, у той-жа час па сціпласці замоўчваючы ўласныя поспехі. Але дэлегаты з'езду — гэта лепшыя з лепшых, самыя перадавыя члены калектыву. На гэтых старонках мы і змяшчаем фотаздымкі некалькіх юнакоў і дзяўчат, якія дастойна прадставілі на з'ездзе комсамол Гродзеншчыны.

Вось работніца тытунёвай фабрыкі Аляксандра Зайцава (злева ўверсе). Актыўны грамадскі работнік, член фабрычнага камітэта ЛКСМБ, яна служыць прыкладам і на вытворчасці. За сістэматычнае перавыкананне норм выпрацоўкі, за выдатную якасць прадукцыі яна ўзнагароджана Ганаровай граматай ЦК ЛКСМБ. Без адрыву ад вытворчасці Шура Зайцава вучыцца: у гэтым годзе яна завяршае сямігадовую школу рабочай моладзі.

Ніжэй — партрэт перадавой работніцы другога прадпрыемства Гродна ткачыхі тонкасуконнага камбіната Лідзіі Паслядовіч. Выдатна валодаючы прафесіяй, яна ахвотна вучыць сваіх менш вопытных сябровак. Ліда Паслядовіч— інструктар па перадачы перадавых метадаў працы. Прадукцыя, якую яна выпускае, заўсёды вышэйшага гатунку. Пасля змены яна таксама спяшаецца на заняткі ў вячэрнюю школу.

На той-жа старонцы яшчэ адзін фотаздымак: двое юнакоў за гутаркай. Гэта — комсамольскія важакі. Злева — Сцяпан Лабовіч, сакратар Карэліцкага райкома ЛКСМБ, справа — Адам Магільніцкі — сакратар Сапоцкінскага райкома. Моладзь Карэліцкага раёна нямала зрабіла ў мінулым годзе. Усе калгасы раёна сталі мільянерамі. У адных толькі палявых брыгадах калгасаў гэтага раёна працуе каля тысячы комсамольцаў.

У Сапоцкінскім раёне таксама нямала зроблена комсамольцамі. За два апошнія гады раённая арганізацыя значна вырасла. Добрых поспехаў дабіліся механізатары раёна, у большасці моладзь. Ранняй вясной яны першымі на Гродзеншчыне пачалі палявыя работы, паспяхова правялі сяўбу. Ураджай быў атрыманы вышэйшы, чым у папярэднія гады.

На другой старонцы — два здымкі: студэнтка педагагічнага інстытута Яўгенія Арэф'ева і намеснік старшыні калгаса імя Панамарэнкі Гродзенскага раёна Сяргей Голуб.

Арэф'ева вучыцца ўжо на трэцім курсе і на працягу ўсіх трох год атрымоўвае высокія ацэнкі сваіх ведаў. Разам з тым яна актыўна выконвае грамадскія абавязкі.

Сяргей Голуб, бадай, самы малады калгасны кіраўнік у рэспубліцы. Намеснікам старшыні калгаса і сакратаром комсамольскай арганізацыі ён стаў пасля службы ў арміі. Аднапалчане Голуба могуць ганарыцца ім. Ён выдатна арганізаваў працу комсамольцаў, якія працуюць ва ўсіх галінах калгаснай гаспадаркі. Калгас імя Панамарэнкі з дапамогай моладзі электрыфікаваны і радыёфікаваны, мае шматлікія тыповыя каменныя пабудовы, атрымлівае высокія даходы.

Так кожны на сваім участку гродзенскія комсамольцы адказваюць справамі на заклік партыі, якая паставіла перад моладдзю краіны вялікія, ганаровыя задачы.

Фото А. Дзітлава і
С. Чырэшкіна.





**У мінскім магазіне мастацкіх вырабаў.**
Фото А. Дзітлава.

Дзяўчаты часта наведваюць другія прадпрыемствы, каб азнаёміцца з работай сваіх сяброван. На гэты раз яны зрабілі экскурсію на фабрыку «КІМ».

На здымку: (злева направа) Люба Жаўранкова, Марыя Мядзведзева, Надзя Ляскова і Соня Картавіцкая ў катонным цэху.



ваюць, потым чытаюць, вышываюць, слухаюць музыку.

У Віцебск не так ужо часта прыязджаюць славутыя артысты. Не бяда. Дзяўчаты калекцыяніруюць патэфонныя пласцінкі вядомых артыстаў — выканаўцаў папулярных песень. Кожная новая пласцінка — немалаважная падзея. Пласцінку прыходзяць слухаць з другіх пакояў, хоць патэфон ёсць амаль у кожным пакоі.

Вера Унецкая — дэпутат гарадскога і абласнога Советаў дэпутатаў працоўных. Яна добра выконвае свае абавязкі дэпутата. Сярод дзяўчат ёсць дэпутаты райсовета, члены камітэта комсамола, профсаюзныя актывісты. Дзяўчаты ў час адной з гутарак сказалі нам:

— Сярод работніц цяпер знойдуцца дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, і комсамольскія актывісты, і актрысы.

У гэтых словах было шмат гордасці за наш лад, які даў шырокія правы простаму чалавеку.



Вера Унецкая — дэпутат гарадскога і абласнога Советаў дэпутатаў працоўных. На здымку: намеснік старшыні горсовета т. Алейнікаў гутарыць з Верай Унецкай.

Потым мы пабывалі ў школе рабочай моладзі, зайшлі ў восьмы клас, дзе вучыцца Валя Мазурава і яе сяброўкі па рабоце.

У першыя гады совецкай улады, калі Маркаўшчына пачынала рэканструявацца, тут з цяжкасцю знаходзілі пісьменных людзей, якія тады так патрэбны былі краіне! Цяпер кожны малады чалавек імкнецца мець сярэднюю або вышэйшую адукацыю. Рабочыя дыванова-плюшавага камбіната, фабрыкі «КІМ» і іншых прадпрыемстваў — гэта пісьменныя людзі, якія не толькі ўмеюць ткаць, прасці, але добра ведаюць літаратуру, мастацтва, навейшую тэхніку. На камбінаце нам паказалі кнігу Веры Унецкай, у якой яна расказвае пра свой вопыт работы. Рабочы—аўтар кнігі. Гэта магчыма толькі ў краіне соцыялізма.

А колькі цікавых спраў у моладзі. Пры камбінаце ёсць свой клуб. У гуртках мастацкай самадзейнасці ўдзельнічаюць дзесяткі рабочых і работніц. Мы прысутнічалі на рэпетыцыі хору. Дзяўчаты прыгожа пелі бадзёрыя, вясёлыя песні.

— Як жывецца, так і пяецца,— гавораць дзяўчаты. — Раней цяжка жылося, і песні ў нашых бацькоў былі сумнымі. Нам добра жывецца, таму і песні вясёлыя.

Пад вечар да Веры Унецкай зайшлі Ядзя Шаціла і Дуся Пугачова. Разам з імі і мы пайшлі ў бібліятэку. Тут дзяўчат добра ведаюць. Яны часта прыходзяць сюды чытаць часопісы, кнігі.

На трэці дзень мы зноў не засталі Веры Унецкай. Яе выклікалі ў радыёкамітэт праслухаць запіс яе гутаркі. Вера Унецкая не раз ужо выступала па радыё, у абласной газеце, дзялілася вопытам сваёй работы.

Потым дзяўчаты запрасілі нас схадзіць з імі на экскурсію на фабрыку «КІМ». У катонным цэху расказваць пра работу катонных машын узялася адна з лепшых катоншчыц Надзя Ляскова.

Дзяўчаты бываюць на экскурсіях не толькі на фабрыках і заводах, але і ў музеях, на чыгунцы, у навучальных установах. Яны хочуць многае ведаць, а лепшае пераймаць і прымяняць у сваёй рабоце.

У той-жа дзень да дзяўчат зайшоў у госці дэмабілізаваны воін, брат іх сяброўкі Леанід Каваленка. З дзяўчатамі ён быў знаёмы па пісьмах сястры. Дзяўчаты расказалі яму, як жывуць, паказалі альбом з граматамі Веры Унецкай.

Так запоўнены кожны дзень работніц. А мы многае яшчэ выпусцілі, бо каб расказаць пра ўсё, не хапіла-б усяго часопіса. На камбінаце ёсць клуб, у якім праводзяцца вечары, танцы, гульні. Дзяўчаты ўлетку ходзяць у гарадскі парк, а зімой ездзяць на лыжах, займаюцца спортам. Кожная з іх адпачывала ў доме адпачынку або ў санаторыі. Многія вядуць вялікую грамадскую работу.

Жыццё дзяўчат змястоўнае, цікавае, багатае, як багатае і ўсё наша жыццё.

У Веры Унецкай поўны альбом грамат, якімі яна ўзнагароджана за выдатную работу. Кожная грамата — гэта гісторыя выдатных перамог.



# ЗВЫЧАЙНЫ ЧАЛАВЕК

І. НАУМЕНКА

Мой герой уцякаў ад мяне. Гэта было ясна. Я ўжо трэці раз прыходзіў на завод і ўсё ніяк не мог з ім сустрэцца. Вахцёры з прапускной будкі прыдзірліва агляд али мае разавыя прапускі. Здаецца, іх позіркі гаварылі: «Чаго ён сюды швэндаецца? Людзі-ж працуюць, а яму што трэба?»

Адным словам, я адчуваў сябе вельмі няёмка, калі, трэці раз зайшоўшы ў аддзел галоўнага тэхнолага, пачуў такі адказ:

— Інжынер Ігар Паляціла? Ён, мабыць, пайшоў у першы механічны. А гэта не вы званілі поўгадзіны назад?

І ўсё-ж я спаткаўся з ім. Праўда, для гэтага прышлося абраць новую тактыку. Я прышоў у заўком і з гадзіну лістаў стары камплект «Кракадзіла». А пасля шчыра прызнаўся ў сваіх нягодах старшыні заўкома, пасівеламу чалавеку з добрымі маршчынамі. Ён узяў тэлефонную трубку і строгім голасам папрасіў прыслаць да яго старшага тэхнолага Паляцілу.

І вось у пакой зайшоў той, каго я так доўга не мог сустрэць. Ігар Паляціла аказаўся маладым чалавекам, высокім, з удумлівымі чорнымі вачамі.

— Вы не хацелі са мной сустракацца? — спытаў я.

— У камітэце комсамола мне сказалі, што вы збіраецеся пісаць пра самых лепшых людзей завода. Я для гэтага не падыходжу. У маёй рабоце няма нічога выключнага, ды і чалавек я самы звычайны...

Цяпер я бачыў, што проста так з ім кашы не зварыш. Ніякага інтэрв'ю не атрымаецца. Мой герой насупіўся і падрыхтаваўся, відаць, не ўпадаючы ва ўспаміны і лірыку, адказваць на мае пратакольныя пытанні. Гэта ніяк не ўваходзіла ў мае разлікі. Я ведаў ужо, што Ігар Паляціла, якому хутка споўніцца толькі дваццаць дзевяць гадоў, лічыцца на станкабудаўнічым заводзе імя Варашылава адным з самых здольных інжынераў. На яго рахунку ёсць ужо калі не адкрыцці, то вельмі важныя рацыяналізатарскія прапановы. Сёння яны ажыццёўлены і далі вялікую эканомію ў часе, метале, сродках. Пратакольнымі пытаннямі пра гэта не даведаешся...

Ну што-ж, калі Ігар не хоча расказваць пра сябе, няхай раскажа хоць пра сваіх сяброў.

І вось мы ідзем па шырокім заводскім двары, пераходзім з цэха ў цэх, спыняемся каля станкоў. Завод гудзе, ён жыве сваім размераным, строга вызначаным жыццём. Ля станкоў — рабочыя: ім няма да нас асаблівай справы. Праўда, Ігара тут ведаюць, яго часта аклікаюць. І на тварах тых, што звяртаюцца да тэхнолага, я бачу пытанне, якое датычыць мяне: «Хто гэта? На інжынера-ж ён не падобны, бо вельмі ўжо нерашуча падыходзіць да станка».

Я ўжо бачыў тыя станкі, якія выпускае завод. Сярод іх — свідравальныя, фрэзерныя, даўбёжныя. Ёсць станкі, якія па сваёй велічыні нагадваюць ледзь не цэлы пасажырскі вагон. Я пранікаюся ўсё большай павагай да свайго праважатага. Ён-жа таксама робіць гэтыя вялізныя станкі! Мабыць, для таго, каб вывучыць дасканала хоць адзін з іх, трэба адолець не менш, чым тоўсты падручнік, і нават не адзін.

Мы ходзім па заводу ўжо гадзіны са тры, і я пачынаю непакоіцца, што адрываю свайго інжынера ад работы. Але ён спакойны. Раз трэба, значыць трэба. А на зубарэзным участку, якім ён кіруе, людзі сваю справу ведаюць.

Цяпер Ігар расказвае пра людзей, аб якіх, на яго думку, проста нельга не напісаць. Вось майстар Чарнамазаў. Ён у нечувана кароткі тэрмін асвоіў новы станок. А самае галоўнае, што на гэтым станку шасцяронкі вырабляюцца намнога лепш і хутчэй, чым нават на горкаўскім станкабудаўнічым заводзе. Пра гэта ўсе гавораць. Нядаўна ў Горкі ездзілі мінскія станкабудаўнікі. Гаркаўчанам было што пераняць.

А колькі цудоўных рабочых на заводзе! Хоць-бы той-жа Нікалай Чапурын, напрыклад. Яшчэ малады хлопец, але яму можа пазайздросціць кожны. Нядаўна працаваў на трох станках, цяпер упраўляецца на пяці. І не адзін Нікалай такі. Сярод зубарэзчыкаў такія ўсе.

Ёсць на заводзе людзі, якія сказалі сваё слова не толькі на вытворчасці. Яны скажуць яго і ў навуцы.

Інжынера Грыгорыя Іванавіча Плашэя паважаюць усе, хоць па гадах ён яшчэ малады. Ён ужо быў вядучым канструктарам завода. Колькі новага ўкараніў ён у вытворчасць! Цяпер інжынер Плашэй працуе начальнікам аддзела тэхнічнага кантролю. Гэта нялёгкі ўчастак. Але на завод больш не паступае рэкламацый, гэта значыць, заказчыкі не скардзяцца на прадукцыю. Грыгорый Іванавіч, акрамя работы, займаецца завочна ў аспірантуры. Яму будзе што напісаць у сваёй дысертацыі.

Пра ўсё гэта мне расказаў Ігар Паляціла, а я думаў пра яго. Я ўжо ведаў, што ён кіруе вырабам шасцярон, утулак, шліцавых злучэнняў. Здаецца, шасцярня — рэч невялікая. Але без яе не будзе працаваць самы складаны станок. А колькі ўсіх гэтых шасцярон у кожным станку. Выраб-жа іх трэба асвоіць, а значыць, трэба асвоіць новыя станкі. Адным словам, я хацеў пачуць пра тое, што новага ўвёў у тэхналогію вырабу сярэдніх дэталей Ігар Паляціла, але ён пра гэта нічога не гаварыў. Ну што-ж, можа, раскажуць пра гэта ігаравы сябры, я іх цяпер ужо ведаю.

Мы прышлі ў першы механічны цэх і тут здарылася якраз тое, што і хацеў я пабачыць.

Ігар раптам спыніўся каля станка і пачаў наглядаць за яго работай. Да інжынера падышоў юнак, твар у яго быў разгублены. Ад разца вілася тоненькая стружка металу, станок працаваў, і я не разумеў, што здарылася. Але інжынер і рабочы, відаць, вельмі добра разумелі адзін другога. Ігар сам стаў за станок. Рухі яго былі ўпэўненыя, дакладныя, было відаць, што работа за станком для яго не навіна. Я-ж убачыў толькі, што тоненькая стружка пачала звівацца хутчэй, а станок зусім перастаў ляскаць. Ён працаваў амаль што бясшумна. Убачыў я яшчэ, што Ігар зусім забыўся пра мяне. Для яго цяпер на ўсім свеце існаваў адзін толькі станок. Каб не перашкаджаць, я выйшаў з цэха.

Сустракаўся я з Ігарам Паляцілам яшчэ некалькі разоў. Я стараўся прыходзіць на завод у такі час, каб не перашкаджаць яго рабоце. Мне расказвалі пра тэхнолага Паляцілу яго сябры, расказвалі ў аддзеле кадраў, у парткоме, у заўкоме. А ў камітэце комсамола не без гонару паведамілі, што ён узначальваў у свой час усю комсамольскую арганізацыю завода.

Цяпер я прыходзіў да Ігара, як кажуць, ва ўзбраенні фактаў. Я ўжо ўяўляў сабе, што мой герой іменна такі, якім мне яго намалявалі ў самым пачатку.

На заводзе Ігар працуе шэсць год. За гэты час зубарэзны ўчастак, якім ён кіруе і які вырабляе ўсе сярэднія дэталі для станкоў, што выпускае завод, непазнавальна змяніў свой твар. Па-першае, прадукцыйнасць працы тут павялічылася ў 3—4 разы. Па-другое, рабочымі асвоены чатыры новых станкі, новыя віды апрацоўкі дэталей. Па-трэцяе, шум, скрыгат, ляскат, якія раней лічылі непазбежнымі пры рабоце на такарных, шліфавальных, фрэзерных станках, зведзены тут амаль на нішто. Станкі працуюць без грукату і ляскату. Усё гэта, узятае разам, азначае, што тэхналагічны працэс апрацоўкі дэталей вельмі сур'ёзна ўдасканалены.

Мне расказвалі пра тое, як інжынер змагаўся за знішчэнне ляскату і скрыгату. Гэты шум перашкаджаў працаваць. Звычайныя змазкі станка і апрацоўваемых дэталей не давалі жаданых вынікаў. Знаходзіліся скептыкі, якія гаварылі: «Нічога з гэтай задумы не выйдзе. З металам працаваць нельга без шуму. Каля вады ходзячы — замочышся». Сапраўды, прайшло каля двух год, як Паляціла ўзяўся за гэтую справу, але вялікіх зрухаў усё яшчэ не было. Нават ігаравы сябры лічылі, што са сваёй няўдачай ён змірыўся, і яны стараліся не напамінаць яму аб гэтым. Але Ігар не змірыўся з няўдачай. Ніхто не ведаў, што гэты хлапец два гады ездзіў па ўсіх мінскіх заводах і па крупінках збіраў набыты ў гэтай справе вопыт. Праўда, цалкам гэтая задача не была вырашана ні на адным заводзе. А тое, што і было, не падыходзіла

---

*Погляд у будучыню*



**Пад Новы год совецкія людзі па добрай традыцыі азіраюцца на свой пройдзены шлях, дзеляцца сваімі новымі планамі, думкамі.**

**На працягу двух год я займаюся ў аспірантуры Мінскага медыцынскага інстытута на кафедры мікрабіялогіі. Пад кіраўніцтвам прафесара лаурэата Сталінскай прэміі Б. Я. Эльберта я працую над пытаннем зменлівасці ўзбуджальніка брушнога тыфусу. Лабараторыя нашай кафедры сабрала цікавы матэрыял аб заканамернасцях зменлівасці ўзбуджальніка брушнога тыфусу.**

**У выніку праведзеных даследаванняў атрыманы даныя, якія, магчыма, дапамогуць хутчэй вырашыць задачу папярэджання захворванняў брушным тыфусам. Вывучаемае пытанне адносіцца да вельмі важнай праблемы жывых вакцын, якая атрымала ў даследаваннях айчынных вучоных і практычнай ахове здароўя агульнае прызнанне.**

**Мне хочацца як мага хутчэй закончыць сваю працу, каб прадставіць яе для абароны на атрыманне навуковай ступені кандыдата медыцынскіх навук. Мяркую і надалей прысвяціць сябе распрацоўцы навуковых прынцыпаў і метадаў папярэджання інфекцыйных захворванняў.**

**Леанід ЗМУШКО,**
**аспірант Мінскага медінстытута.**

На здымку: (справа налева) **старшы тэхнолаг Мінскага машынабудаўнічага завода імя Варашылава І. Паляціла і майстар зубарэзнага ўчастка М. Чарнамазаў.**

Фото С. Чырэшкіна.



для зубарэзнага ўчастка, бо тут вырабляліся іншыя дэталі. Але паездкі, знаёмства з творчым працэсам на розных заводах будзілі думку, пашыралі веды. Інжынер Паляціла ўсё-ж дамогся свайго. Ён пайшоў на смелую мадэрнізацыю станка. Станок, на якім апрацоўвалі раней дэталі канічнай шасцярні, быў перакансруяваны для апрацоўкі шасцярні цыліндрычнай. Шум стаў меншым. У далейшым знайшлі яшчэ спецыяльную змазку.

Я ведаў яшчэ пра адно вельмі важнае ўдасканаленне, якое звязана з імем інжынера Паляцілы. Шасцярня галоўнага прывада апрацоўвалася раней 24 гадзіны. Цяпер яе робяць за 6 гадзін. Такое ўдасканаленне мяжуе бадай што з адкрыццём...

Я спытаў у інжынера, як ён дайшоў да гэтага ўдасканалення. Не сказаўшы ні слова, Ігар пачаў мне маляваць на паперы станок. Праз хвіліну я пачаў зрокава ўяўляць той станок, які бачыў у цэху. Раней дэталь замацоўвалася на ім толькі на адным упоры. Інжынер вырашыў дабавіць яшчэ адзін упор. Дрыжэнне дэталі змяншалася, яна была замацавана лепш, а гэта давала магчымасць павялічыць абароты разца і шырыню здымаемай стружкі. Сапраўднае адкрыццё заўсёды хвалюе сваёй прастатой. Адразу ўзнікла думка, што да гэтага-ж лёгка было дадумацца...

Калі Ігар маляваў мне станок, я звярнуў увагу на яго чоткія, упэўненыя рухі. Станок быў намаляваны за якую-небудзь хвіліну. «Ён-жа мастак, — падумаў я. — Так проста такі малюнак не зробіш»... Я асцярожна спытаў аб гэтым інжынера.

— Так, я некалі захапляўся маляваннем, — сціпла прызнаўся мне Ігар. — Гэта мне дапамагае і зараз. Калі я думаю аб новай дэталі, я ўяўляю яе зрокава, прасторава...

Няхай даруе мне Ігар Паляціла. Сёе-тое пра яго жыццё хочацца мне расказаць.

У апошні перадваенны год жыхары Брэста любаваліся малюнкамі васьмікласніка Ігара Паляцілы на абласной выстаўцы. Было ў гэтых малюнках нешта такое, што прыцягвала да іх позіркі. Магчыма, уражала гледачоў тое, што ў самым звычайным, будзённым умеў падмячаць юны мастак такія рысачкі, якіх да яго не заўважалі. Гэта былі замалёўкі вясновага Брэста, вербаў над Бугам, хлопчыкаў, што гуляюць у футбол. Школьніка ўзнагароджвалі граматамі, прысуджалі яму прэміі. І настаўнікі, і аднакласнікі лічылі, што Ігар абавязкова стане мастаком. Жыццё-ж унесла свае папраўкі ў гэтыя добрыя спадзяванні. Пятнаццацігадовым юнаком Ігар убачыў першы дзень вайны, першы бомбавы ўдар па Брэсту. На яго вачах фашысты руйнавалі родны горад, разбамбілі дом, дзе ён жыў, дзе былі яго кнігі і малюнкі. Гэтай бомбай тады-ж, у першы дзень вайны, кантузіла Ігара Паляцілу. Ігар бачыў, як расстрэльвалі з кулямётаў фашысцкія сцярвятнікі мірных людзей, што пыльнымі дарогамі ішлі на Усход. Гэтыя малюнкі нельга было забыць. Яны сталі ў ваччу да самага Урала, куды ехала сям'я Паляцілаў.

Там, на Урале, у пасёлку Іс паступіў Ігар у горны тэхнікум. Юнак справядліва лічыў, што краіне ў такі час вугаль і жалезная руда патрэбны больш, чым карціны. Але малюнак палаючага Брэста не сціраўся з памяці ні тады, калі юнак сядзеў за партай, ні тады, калі ён спускаўся ў штрэк.

Хутка Ігар вырашыў, што яго месца на фронце. У яго была бронь. Так проста пайсці з тэхнікума было нельга. Ігар пайшоў у армію добраахвотнікам. І вось ён ужо курсант танкавага вучылішча. А яшчэ крыху больш чым праз год прыехаў Ігар зноў на Урал, прыехаў атрымліваць танк. Юнак марыў праехаць на гэтым танку па вуліцы роднага Брэста.

Але вызваляць родны горад малодшаму лейтэнанту Паляцілу не прыйшлося. Яго паслалі за дзесяткі тысяч кілометраў ад Брэста, на Далёкі Усход. І вось цяжкая горная дарога на Хайлар, на Харбін. Новая кантузія, другая за вайну. Мілітарысцкая Японія была разгромлена ўслед за фашысцкай Германіяй.

Дзесяць гадоў назад Ігар Паляціла дэмабілізаваўся. Многа дзён ён ехаў ад Уладзівастока да Беларусі. Можа гэта і добра, што многа. Ігар увачавідкі бачыў, якая вялікая яго краіна, колькі ў ёй багацця, прыгажосці, колькі трэба ёй умелых рук.

Ехаў Ігар дадому і не сумняваўся ў адным: ён пойдзе вучыцца. Але куды? У мастацкае вучылішча? Сэрца трапятала радасна ад такой думкі. Але была думка другая. За час вайны хлопец пазнаёміўся з тэхнікай, палюбіў яе. Ён часта ўспамінаў свой танк, гэтую вялізную машыну, паслухмяную кожнаму яго руху. Зацятая спрэчка з самім сабой была вырашана на радзіме. Ігар пабачыў руіны Мінска, папялішчы, разваліны вёсак і гарадоў. Трэба было ўсё гэта аднаўляць.

Хутка Ігар Паляціла стаў студэнтам трэцяга курса Мінскага політэхнікума. Было, канешне, не заўсёды лёгка. Бывалі дні, калі афіцэру запаса прыходзілася ламаць галаву над складанай задачай: патраціцца на папяросы ці не патраціцца. Але не гэта помніцца. Помніцца другое — першая самастойна абточаная дэталь, паслухмяны рукам вялізны станок. Ігар праходзіў практыку на заводзе імя Варашылава. Тут яго прыкмецілі, і завод падаў заяўку на Ігара і яшчэ двух яго таварышаў.

З дыпломам тэхніка можна было, безумоўна, і не абціраць рукі пакляй. Але Ігар не хацеў ісці гэтай дарогай. Ён пайшоў да станка, ён ахвотна вучыўся ў рабочых. І яны шмат дапамаглі яму, — Бебель, Базаеў, Піндрык і многія іншыя ветэраны-станкабудаўнікі.

І калі сёння хто-небудзь спытае, чаму так хутка пайшоў угару Ігар Паляціла, гэты малады чалавек, вядомы на заводзе інжынер, пры сустрэчы з якім з павагай дакранаюцца да казыркоў пасівелыя майстры, няхай успомніць гэты таварыш, што рос Ігар знізу, развіваўся нармальна. Добрай была глеба, здаровым аказалася дрэўца. Мабыць, ён назаўсёды застаўся мастаком чалавекам-творцам, які не ідзе пратораным сцежкай, а шукае новых.

Мне трэба развітацца з Ігарам Якаўлевічам. Позна ўжо. Мы сядзім у заводскім клубе, заканчваем чацвёртую партыю ў шахматы. Мабыць, і гэтую партыю я прайграю. Ігар міласціва дазваляе мне падоўгу думаць над кожным ходам, а сам раз-по-раз узіраецца ў карту Беларусі над сталом. Па-мойму, ён глядзіць у адно і тое-ж месца. Нарэшце, я не вытрымліваю.

— Што-небудзь цікавае напісана там?

— Напісана — Давыдаўка, Даманавіцкі раён.

— Ну, і што?

— Там мая жонка. Яна працуе ўрачом. Сёлета пажаніліся.

— Хіба-ж нельга было забраць яе ў Мінск?

— Там на ўсю бальніцу адзін урач. Падстава, канешне, ёсць для гэтага. На будучы год, мабыць, будзе замена, — кажа Ігар ужо весялей.

Другі-б, канешне, замены не чакаў. Што яму тая бальніца...

Вельмі добра, што Ігар Паляціла лічыць сябе самым звычайным чалавекам. І яшчэ лепш, што такіх людзей у нас вельмі многа.

---

**Іван ЦІМАШКОЎ**

## Дарога

Далёкія водгукі фронта
Замоўклі за ціхай ракой.
Пакінуты панскі маёнтак,
Пракураны бальны пакой.
Знаёмая, блізкая дзея:
Услаўлены «Бронецягнік
Чатырнаццаць-шэсцьдзесят дзевяць»
На сцэне вясковай узнік.
А час неспакойны, суровы.
На сцэне — рашаючы бой.
Вяршыніна цвёрдае слова
Усіх павяло за сабой.
Ён думку адзіную песціў:
Той вобраз падаць без маны,
Да кожнага шчыра данесці
Суровую праўду вайны.
І шлях станавіўся яскравей
Ад гэтага слова яго.
І нехта, устаўшы на лаве,
Камандуе з залы: «Агонь!»
Нядаўняя быль, не паданне.
Палаючы край-старана:
Вялікае выпрабаванне
Людскога сумлення — вайна.
Узняўшы вяршынінскі голас,
Вядзе камісар за сабой —
Былы сакратар валкамола —
Атрад партызанскі у бой.
Ідуць несупынна, вячысты
І радасны дзень несучы,
Былыя гурткоўцы-артысты
І першыя іх гледачы.
Прайшлі яны багны і рэкі,
А пройдзена колькі шляхоў
З пары комсамольскай ячэйкі
Да сталасці мужных байцоў!
Пранеслі праз годы цяжкія
Вялікага Леніна сцяг,
Бо партыя сэрцы людскія
Напоўніла праўдай жыцця.

# РАЗВЕДЧЫКІ НЕТРАЎ

**В. БОЙКА**

На сцяне — карта Савецкага Саюза, афарбаваная зусім незвычайна. У шафах — загорнутыя ў паперу ўзоры парод, прывезеныя са скважын на лабараторны аналіз. Да самай столі ўзнімаюцца стэлажы з кнігамі па геалогіі і палеанталогіі на рускай, англійскай, французскай і нямецкай мовах. Тыя, хто працуе ў гэтым кабінеце, ведаюць: без крытычнага засваення навуковай спадчыны папярэднікаў немагчымы далейшы рух наперад. Вось чаму бачым мы тут тамы Ламаносава і Карпінскага, Дарвіна і Бюфона, Ферсмана і Обручэва, многатомныя выданні і тонкія брашуркі, камплекты часопісаў і працы міжнародных геалагічных кангрэсаў з дэвізам на вокладцы: «Mente et Malleo», што азначае — «Розумам і малатком».

У кабінеце працуюць член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР Аляксандр Васільевіч Фурсенка і яго вучні — маладыя вучоныя Васіль Кузьміч Галубцоў і Сямён Сяргеевіч Маныкін.

Пры першым-жа знаёмстве робіцца зразумелым, што гаспадары кабінета не пагарджаюць «чарнавой» работай у навуцы. Аляксандр Васільевіч на пішучай машынцы сам устаўляе ў рукапіс лацінскія назвы. На стале Васіля Кузьміча стусы сшыткаў, спісаных дробненька простым алоўкам (у полі не дазваляецца пісаць хімічным алоўкам, бо дождж і вільгаць могуць сапсаваць запісы). Васіль Кузьміч сістэматызуе запісы, уносіць папраўкі, робіць адпаведныя вывады.

Па-рознаму склаўся лёс вучняў Аляксандра Васільевіча, рознымі шляхамі прыйшлі яны ў навуку. Але маладых вучоных еднае адзіная мэта — як мага больш унесці ў навуку аб будове зямных нетраў Беларусі, навукова абгрунтаваць магчымасць залягання тут шмат якіх карысных выкапняў, падрыхтаваць матэрыялы для пошукаў геолага-разведачных партый.

І ў полі, і ў лабараторыі вядзецца няспынная праца па высвятленню шматлікіх пытанняў, звязаных з умовамі залягання розных слаёў, іх магутнасцю, размяшчэннем і формай месцанараджэнняў. Старонку за старонкай разгортваюць вучоныя цікавейшы летапіс гісторыі зямлі.

Нямала таямніц хаваецца ў нетрах нашай рэспублікі. Вывучэнне іх ускладняецца тым, што ў раёне Беларусі глыбінныя, карэнныя пароды амаль нідзе не выходзяць на паверхню.

Да нядаўняга часу большасць даследчыкаў лічыла, што ў Беларусі адкладанні каменнавугальнага перыяду (карбону) амаль не распаўсюджаны.

Некалькі год назад аспірант Інстытута геалогіі Акадэміі навук БССР Васіль Галубцоў атрымаў першае навуковае заданне. Яму было даручана вывучыць рэшткі мікраскапічных ракаў, шырока распаўсюджаных на тэрыторыі Беларусі ў аддалёныя часы, калі тут разліваўся акіян. Марскія адкладанні гэтага часу называюць у навуцы дэвонскімі. Рэшткі мікраскапічных ракаў (астракоды) і размяшчэнне пластоў, у якіх яны знаходзяцца, павінны былі ўказаць даследчыку на паслядоўнасць напластаванняў дэвону.

Але жыццё ўнесла свае папраўкі і прымусіла маладога вучонага адступіць ад намечанага плана, ускладніўшы яго задачу.

...У красавіку 1953 года работа Васіля Галубцова над вывучэннем дэвонскіх адкладанняў ішла поўным ходам. Цэлымі днямі праседжваў ён над мікраскопам і вывучаў астракоды. Узоры горных парод, здабытыя глыбокім бурэннем, апрацоўваліся спачатку ў лабараторыі. З іх вылучаліся ў чыстым выглядзе акамянеласці, якія потым пад мікраскопам класіфікаваліся па родах і відах і параўноўваліся з аналагічнай фаунай суседніх з Беларуссю даследаваных раёнаў. Так званы мікрапалеанталагічны аналіз крок за крокам вёў даследчыка да мэты.

У гэты-ж час у лабараторыю на даследаванне быў прывезены вапняк з раёна Ельска. Калі Васіль Кузьміч разглядаў пад мікраскопам фауну гэтага вапняку, то замест прывычных для вока астракод убачыў таксама ракушкі, але ўжо зусім іншага характару. Яму даводзілася бачыць іх яшчэ будучы студэнтам Ленінградскага універсітэта ва ўзорах, прывезеных з пераддыпломнай практыкі з Ферганы. Гэтыя ракушкі былі фараменіферамі, якія сведчылі аб тым, што аналізуемы вапняк адносіцца да карбону.

Адсюль следаваў бясспрэчны вывад — над адкладаннямі дэвонскімі ў Беларусі павінны залягаць пласты каменнавугольных адкладанняў... Так з'явілася неабходнасць навукова абгрунтаваць шырокае развіццё карбону ў нетрах Беларусі. Гэта была вельмі адказная, смелая задача!

З самага дзяцінства Васіля Галубцова вабілі нязведаныя землі і краіны. З захапленнем чытаў ён кнігу за кнігай, дзе часам цяжка было адрозніць праўду ад вымыслу. Хлопчык у думках аб'ездзіў усе мацерыкі і кантыненты, пабываў на планетах, на марскім дне, падарожнічаў да цэнтра Зямлі.

На яве-ж перад вачыма былі краявіды Тульскай вобласці. Навакол — шахты (мясцовыя жыхары называюць іх чамусьці руднікамі, хоць і здабываецца ў іх вугаль, а не руда), вугаль і вугаль — карбон на самай паверхні. І не думалася хлопчыку, што некалі сам будзе шукаць ён гэты самы карбон на вялікіх глыбінях, а «падарожжа ў нетры Зямлі» будзе адбывацца галоўным чынам, калі не лічыць паездак на месцы бурэння, пры дапамозе мікраскопа ў лабараторыі...

У часе вайны Вася скончыў сямігодку, працаваў на механічным заводзе малатабойцам, потым — слесарам-кацельшчыкам.

Неяк пад руку трапілі Васілю кніжкі Ферсмана і Обручэва. Чытаў іх прагна, як раней раман Жуль Верна пра падарожжа да цэнтра Зямлі. Майстар цэха, — чалавек бывалы, — убачыўшы ў абедзенны перапынак гэтыя кнігі ў Васіля, пагартаў іх і аўтарытэтна параіў:

— Кінь ты, браток, гэтыя падарожжы! Слесар з цябе добры вышаў. Дзякуй богу, пяты разрад маеш... Вось канчай школу і паступай на інжынера вучыцца...

Паступіўшы ў 1945 годзе ў Вышэйшае тэхнічнае вучылішча імя Баумана ў Маскве, Васіль вучыўся нядрэнна, але вельмі часта ўзнікала сумненне — «не сваёй справай займаюся»...

І вось ужо восенню 1946 года Васіль — студэнт геалагічнага факультэта Ленінградскага універсітэта. Тут і адбылося яго знаёмства з Аляксандрам Васільевічам Фурсенкам, пад кіраўніцтвам якога Галубцоў пачаў авалодваць метадам мікрапалеанталагічнага аналізу. Курсавыя работы паступова перараслі ў дыпломную, прысвечаную вывучэнню сярэднекаменнавугольных адкладанняў міжрэчча Шунк—Шуран. Работа была напісана на матэрыяле Поўднёва-Ферганскай стратыграфічнай партыі, у даследаваннях якой удзельнічаў і Галубцоў.

Дыпломная работа Васіля Галубцова мела навуковую цікавасць: у ёй была дэталёва распрацавана схема расчлянення адкладанняў каменнавугольнага перыяду аднаго з раёнаў поўднёвай Ферганы. Яна вызначыла далейшы кірунак дзейнасці маладога вучонага.

У аспірантуры АН БССР навуковай працай Галубцова зноў кіруе Аляксандр Васільевіч Фурсенка — адзін з вопытнейшых вучоных Акадэміі.

Нават пасля таго, як быў адкрыты карбон у раёне Ельска, некаторыя геолагі ўсё яшчэ сумняваліся ў правільнасці адкрыцця.

Сам-жа Васіль Кузьміч адразу паехаў на скважыну і выявіў, што ўзор вапняку, у якім былі знойдзены фараменіферы, паходзіць з магутнага пласту вапняку, што знаходзіцца тут «у карэнным заляганні». У працэсе далейшай работы на матэрыяле з раёнаў Славечна, Ельска і Капаткевічаў Васіль Кузьміч устанавіў шырокае распаўсюджанне каменнавугольных адкладанняў на беларускім Палессі.

Так шырокае заляганне карбону на тэрыторыі Беларусі стала навукова абгрунтаваным фактам, значэнне якога цяжка пераацаніць.

Гэтае адкрыццё ўзбагачае веды геалагічнай будовы нетраў Беларусі, дае магчымасць больш дасканала ўявіць умовы залягання слаёў зямной кары на тэрыторыі рэспублікі, значна пашырае ў будучым магчымасць знаходжання тут заляганняў карысных выкапняў.

Не адзін Васіль Галубцоў раскрывае сёння таямніцы беларускіх нетраў. Месяц за месяцам, год за годам усё далей зазіраюць працаўнікі навукі ўглыб Зямлі, выяўляючы яе незлічоныя багацці. Побач з Васілём Галубцовым працуе другі малады вучоны Сямён Маныкін. У яго другая задача — расчляніць адкладанні трацічнай сістэмы на тэрыторыі рэспублікі. Сямён Маныкін шляхам дасканалага даследавання прыйшоў да вельмі важнага вываду. Ён даказвае, што ў нетрах Беларусі залягаюць амаль усе ярусы парод, што і ў суседняй нам Украіне.

Стагоддзямі складаў наш народ паданні і легенды пра схаваныя скарбы маці-зямлі. Гэтыя скарбы будуць адкрыты...



**Сямён Сяргеевіч Маныкін, Васіль Кузьміч Галубцоў і прафесар Аляксандр Васільевіч Фурсенка** (злева направа)

Фото С. Чырэшкіна.



## Пагляд у будучыню

**Мінулы год быў для мяне годам найбольшых спартыўных поспехаў. Я ў другі раз стаў чэмпіёнам рэспублікі па класічнай барацьбе, выйграў першынство цэнтральнага совета «Буравеснік», заняў трэцяе месца ў першынстве СССР. У барацьбе за першынство Совецкага Саюза я выканаў норму майстра спорту. Для мяне асабіста гэта былі найбольш адказныя спаборніцтвы. У гэтых спаборніцтвах мне ўдалося перамагчы неаднаразовага прызёра СССР і чэмпіёна фестываляў Ленц (Масква), майстра спорту Літвінава (Масква) і майго нядаўняга пераможцу ў Харкаве Ільіных.**

**Поспехі гэтыя, вядома, прышлі не самі сабой. Пачынаючы з 1952 года я настойліва трэніраваўся, неаднаразова выступаў на розных спаборніцтвах. Было ў мяне шмат перамог, былі і няўдачы. Вельмі многа зрабіў для мяне мой трэнер, заслужаны майстар спорту М. І. Мірскі.**

**Планы на будучае ў мяне не малыя. Было-б вельмі добра, каб я іх ажыццявіў. Мне трэба яшчэ многа і многа працаваць, каб павысіць свае тэхнічныя і спартыўныя рэзультаты. У гэтым годзе я мару паступіць у інстытут фізічнай культуры.**

**А. КАРАВАЕУ.**

# Сапраўдныя сябры

**Аляксей ТРАЦЯКОЎ**

Кацька танцавала! Туфелькі ў яе новыя, на высокіх абцасах. Кофтачка шаўковая. Валасы коратка падстрыжаныя. Калі тэмп танца станавіўся шпарчэйшым, Кацька, як віхор, кружылася па паркету, яе твар дыхаў сапраўдным натхненнем.

І Пятрусь ганарыўся, што амаль усе наведвальнікі любуюцца яго сяброўкай. У «Нёмане» і музыкі, і афіцыянткі, і нават стары швейцар прывыклі ўжо да іх. Кацька і Пятрусь адчувалі сябе тут, як дома. Адчыніўшы дзверы рэстарана і прапускаючы ўперадзе сябе, як і належыць выхаванаму чалавеку, сваю сяброўку, Пятрусь упэўненым крокам ішоў да вешалкі, неахайна кідаў паліто старому гардэробшчыку:

— Прывітанне! Як жывем, старына?..

Потым яны ішлі ў куток, да самай эстрады, і садзіліся за столік ля акна. Заказвалі гарэлку, піва, закуску. Часта да Петруся з Кацькай далучаліся Воўка Бяссонаў, пра якога было вядома толькі тое, што бацька ягоны мае персанальную машыну і высокі аклад, і Толька Пашкевіч — па думцы некаторых, будучы таленавіты акцёр, а пакуль што проста малады чалавек, які яшчэ два гады таму назад скончыў дзесяцігодку.

Сёння ў прамежках танцаў кампанія горача абмяркоўвала апошняе здарэнне з Петрусём. Адкінуўшыся на спінку крэсла і пацягваючы цыгарку, Пятрусь гаварыў:

— Абыйдземся і без іх... Падумаеш!.. Я сваё дзве з палавінай выганяю... Мяне ўсё Гродна ведае. Са мною сам дырэктар камбіната за руку здароўкаецца. І мне яшчэ кожная драбяза мараль будзе чытаць! Ды я іх...

І Пятрусь брыдка вылаяўся.

Кацька нават брывом не кранула, а будучы таленавіты акцёр у сваю чаргу ўставіў некалькі моцных слоў. Аркестр зайграў танго, і Толька Пашкевіч, з маўклівай петрусёвай згоды, павёў дзяўчыну на танец. Пад столлю зіхацела вялізная люстра, спявала скрыпка, чуўся звон пасуды і нажоў, а на душы ў Петруся было цёмна і брыдка. Думкі пра тое ліхое здарэнне недарэчна лезлі ў галаву. І ўжо не спрабуючы пазбавіцца ад іх, Пятрусь уваскрашаў у памяці дзень за днём, эпізод за эпізодам усё перажытае ім за апошні час.

Нелады ў яго жыцці, бадай, пачаліся з таго часу, як Пятрусь груба абышоўся з майстрам. Пятрусь лічыў, што не толькі майстар, але нават галоўны інжынер не мае права рабіць яму заўвагі. Хіба той-жа майстар не казаў пра яго, што ён выдатны наладчык станкоў, хіба не яго, Петруся, выклікалі ў Мінск на камвольны камбінат, калі там была няўпраўка з мантажом калінінскіх станкоў? А чый партрэт красуецца на гарадской Дошцы гонару? А хто мантыраваў новае абсталяванне? Чыё імя кожны раз вымаўляецца з трыбун сходаў і нарад?

І вось яго, Петруся Кумыкіна, лепшага рабочага, які ў станку любой канструкцыі можа разабрацца з заплюснутымі вачыма, выклікалі ў комсамольскі камітэт. Мала таго, дык і вымову вынеслі! Сказалі: зазнаўся, грубіян, пачаў выпіваць...

Аднаго разу на беразе Нёмана Петруся з яго шумнай кампаніяй сустрэла Вольга Каламіец—сакратар цэхавай комсамольскай арганізацыі. Петруся ў той момант, як ён казаў сам, «кідала з галсу на галс», інакш кажучы, хістала з боку на бок. Але які ён ні быў п'яны, а добра запомніў твар Вольгі, на якім адбілася пачуццё гідлівасці і ганьбы. На другі дзень паміж імі адбылася вострая размова.

— Табе толькі дваццаць першы год, — гаварыла Вольга, — а глянь, да якога ты свінства дайшоў! Што-ж далей будзе?..

— Некаторыя людзі і ў сорак год застаюцца ёлупамі, а я ў дваццаць адзін год ведаю сваю справу лепш за інжынера. Пра людзей трэба меркаваць па іх справах...

— Па справах і мяркуем. Зафанабэрыўся. Вучыцца не хочаш, звязаўся з цёмнай кампаніяй.

Пятрусь аж падскочыў, быццам невядомая сіла штурханула яго.

— Дык гэта мае сябры — цёмная кампанія? Ды як ты пасмела! Уладзімір Бяссонаў будучы славуты акцёр, а толікавага бацьку ўся вобласць ведае. А Кацярыну ты лепш не чапай. Мы з ёй пажэнімся, — буркнуў Пятрусь.

Вольга холадна запярэчыла:

— А пакуль усе трое гультаі, паразіты. Жывуць за кошт сваіх бацькоў, а на твае грошы выпіваюць.

Пятрусь тады вельмі ўзлаваўся на Вольгу.

А неўзабаве здарылася тое брыдкае, што і дасюль цяжкім каменем ляжала на яго душы. Пасля адной сустрэчы з сваімі прыяцелямі, якая зацягнулася вельмі позна, Пятрусь зрабіў прагул. Першае, што кінулася яму ў вочы, калі ён на другі дзень зайшоў у цэх, быў экстраны выпуск насценгазеты. Загалоўкі, здавалася, крычалі на ўвесь цэх: «Ганьба прагульшчыку!», «Брыдкі ўчынак Пятра Кумыкіна», «У нашых радах не павінна быць месца дэзарганізатарам дысцыпліны!» Пасярод газетнага аркуша была намалявана карыкатура. Пятрусь быў вельмі падобны: на скронях бачкі, кароткія вусікі, мудрагелістая прычоска. Мастак намаляваў яго схіленым над сталом, па якім праходзіў канвеер з адных чарак. А подпіс быў такі: «Майстар шынкарнага канвеера Пятро Кумыкін». Не забыліся і пра Кацьку. Яе намалявалі на другім баку ў позе запраўшчыцы канвеера. Яна ставіла на яго чаркі, а Пятрусь іх перакульваў.

Кумыкін, раззлаваўшыся, парваў насценгазету на маленькія шматкі.

На пасяджэнні камітэта комсамола першым узяў слова сакратар Грыша Базылевіч.

— Мы доўга нянчыліся з Пятром Кумыкіным, выпрабавалі ўсе сродкі і, на маю думку, вычарпалі іх. Засталося апошняе — выключыць яго з радоў ВЛКСМ.

Вось тады і сарваўся Пятрусь Кумыкін канчаткова. Ён кінуў на стол свой комсамольскі білет. Заўсёды спакойны Грыша Базылевіч аж збялеў. Сціснуўшы кулакі, без крыку, але так, каб усе адчулі злосць і пагарду, якія, здавалася, аж распіралі яго грудзі, ён сказаў:

— Гад! Ён зневажае не толькі нас... Ён зневажае свяшчэнную памяць Нікалая Астроўскага, Зоі Касмадзем'янскай, Аляксандра Матросава, Алега Кашавога... Прэч адсюль!

...А скрыпкі ў «Нёмане» спявалі нешта вясёлае. У віхуры танца кружыліся пары і сярод іх маленькі, смуглявы, прыгожы твар Кацькі. Пятрусь схапіў фужэр, наліў у яго гарэлкі, дабавіў піва і адным дыхам выпіў усю гэтую мешаніну. Здавалася, што і аркестр зайграў лепш, і пары пачалі кружыцца ў іншым тэмпе. Каламутны асадак на петрусёвай душы пачаў як-бы растварацца. Пятрусь ужо не гаварыў, а крычаў, сам таго не заўважаючы:

— Гуляем, сябры! Я плачу... Вы мае сапраўдныя сябры! Вы не адхінуліся ад Пятра Кумыкіна.

А Кацька весела смяялася. І Кумыкін быў упэўнены, што яна, калі спатрэбіцца, пойдзе за ім на край свету, у агонь і ў ваду.

Назаўтра Пятрусь не мог працаваць. Рукі яго дрыжэлі, у роце было нядобра, а галава была гэткая цяжкая, што ён ледзь яе паварочваў. Пятрусь хадзіў з кутка ў куток цэха, робячы выгляд, што ён нечым заняты. Рабочыя быццам і не заўважалі яго. Здавалася, што вакол утварылася пустэча. Калі-б яго зараз «спавядалі», лаялі, яму было-б лягчэй.

Раптам на адным са станкоў успыхнуў чырвоны агеньчык. Недзе закрычалі:

— Наладчыка да шостага!

І пайшло з вуснаў у вусны:

— Наладчыка да шостага!

— Гэй, наладчыка да шостага!

Паміж зменамі ішло гарачае спаборніцтва. Кожны быў зацікаўлены ў тым, каб як мага хутчэй ліквідаваць прастой станка. Нібы музыка прагучэў у вушах Петруся гэты покліч: «Гэй, наладчыка да шостага!» Без яго не маглі абыйсціся, пра яго ўспомнілі, значыць, ён не лішні тут чалавек. І, не гледзячы на тое, што ўсё цела яго было, як чужое, Пятрусь кінуўся да шостага станка, на якім працавала Ядзвіга Дзірэнік. Не дарма ў свой час стары майстар казаў, што Кумыкін выдатны наладчык станкоў. Сапраўды, ён адчуваў машыну, як скрыпач адчувае смык. Як толькі Пятрусь падыйшоў да шостага станка, ён адразу зразумеў, у чым прычына аварыі. На гэты раз Пятрусь вырашыў паказаць асаблівы спрыт. Няхай яшчэ раз паглядзяць, як шпарка і спрытна ён можа працаваць. Ён хутка знайшоў хворае месца ў станку, як вопытны хірург знаходзіць злаякасную пухліну ў пацыента. Паварот ключа, яшчэ адзін паварот, і дэталь ужо ў петрусёвых руках. Ён хуценька разбірае яе, ставіць новую спружынку, націскае на рычажок. Падавальнік хутка дзейнічае. Правай рукой Пятрусь ставіць дэталь на месца. Ён спяшаецца, нервуецца і радуецца. Леваю рукою Кумыкін уключае матор, адводзіць правую. Але рухі ў яго нейкія ня-

спрытныя, марудныя. Дае сябе знаць мінулая бязладная ноч. І раптам шум станкоў перакрывае прарэзлівы чалавечы крык. Збялелая Ядзвіга Дзірэнік хуценька выключае матор і кідаецца да Петруся.

...Пятрусь ляжыць на аперацыйным стале і галасы людзей, якія абступілі яго, чутны яму глуха, быццам з-пад зямлі.

— Трэба запрасіць на кансультацыю Пятра Ларывонавіча.

— Вы спадзяецеся, што можна абыйсціся без ампутацыі?

І Пятрусь з жахам разумее, што гэта гаворацъ пра яго, пра яго руку. Халодны пот выступае на ілбе.

Апрытомнеў ён ужо ў палаце. Першым яго імкненнем было паварушыць рукой. Востры боль працяў цела. Але гэты боль выклікаў у яго невыказнае пачуццё палёгкі. У галаве ўзнікла думка: «Рукі ўсё-такі не адпілавалі?» І гарачай хваляй усю яго істоту запоўніла ўдзячнасць да людзей у белых халатах, якія выратавалі яго ад калецтва на ўсё жыццё.

Раніцой маладая чырвонашчокая няня прынесла ў палату карабок цукерак, пячэнне, лімоны і вялізны букет кветак.

— Гэта вам, Пятрусь, — сказала яна, падыходзячы да ложка.

Пятрусь пацягнуўся да кветак. «Гэта, вядома, ад Каці», — падумаў ён. У наступныя тры дні перадачы прыходзілі з нязменнай акуратнасцю.

Надышоў дзень, калі ў бальніцу пускалі наведвальнікаў. Тая-ж маладзенькая, чырвонашчокая няня адчыніла дзверы і сказала:

— Пятрусь, да вас госці...

Петрусю здавалася ўжо, што за нянінай спіной ён бачыць смуглявы з усмешкаю кацін твар, паклёваную рабаціннем фізіяномію будучага таленавітага акцёра. Але ў палату ўвайшоў Грыша Базылевіч, за ім Вольга Каламіец, бачком праціснулася Ядзвіга Дзірэнік. Пятрусь пакутліва пачырванеў і не мог вымавіць слова. Але Базылевіч яшчэ з парога загаварыў першым:

— Добры дзень, Пятрусь! Аднак, нашы не паддаюцца. Бачу, што твая рука на месцы. Мы, брат, яшчэ заўчора сюды прыходзілі, ды не здолелі прыступам зламаць кругавую абарону, арганізаваную вось гэтай дзяўчынай, — і Грыша паказаў на няню.

А Вольга гаварыла пра сваё:

— Перадачы нашы атрымаў? Ты, Петрусёк, як мага больш еж. Яда — гэта лепшыя лекі. Мы табе кожны дзень будзем насіць. А там паедзеш у санаторый. З фабкомам і з дырэкцыяй мы ўжо дамовіліся.

А Пятрусь не мог ні слова вымавіць у адказ, хоць галава і поўнілася думкамі. Ён хацеў сказаць аб тым, якія яны ўсе дарагія яму і блізкія, як ён іх усіх любіць, як ён пакутуе за сваё мінулае, як цэніць іх, сапраўдных сяброў, але ў горле ў яго засеў камяк і перашкаджаў гаварыць. Тады ён прыўзняўся на ложку і здаровай рукою абняў Вольгу за шыю...

На гэтым непрыемная гісторыя Петруся скончылася. Нам застаецца толькі дадаць, што тут мы нічога не выдумалі, змянілі толькі прозвішчы герояў, якія і зараз працуюць на Гродзенскім тонкасуконным камбінаце.




# Ёлка ў Цалуйках

Рыгор **ПАДГОРНЫ**

Мал. А. Волкава.

Да таго, пакуль задняе кола старэнькага рэйсавага аўтобуса на поўдарозе паміж гарадком Залессем і лясной чыгуначнай станцыяй Цалуйкамі не прапароў цвік, пасажыр, захутаны ў паліто на футры, насунуўшы на вочы кучомку, спакойна драмаў на пярэднім сядзенні. Аднак пасля таго, як машына, пакуль клеілі камеру, прастаяла больш за поўгадзіны, пасажыр занепакоіўся. Ён раз-поразу пазіраў на гадзіннік і тузаў за плячо шафёра:

— Хутчэй, прашу вас, хутчэй. Мы-ж можам спазніцца.

Шафёр і так ціснуў на ўсю педаль, аднак старэнькая машына не магла ніяк узяць такі разгон, каб устрывожаны Самуіл Дармідонтавіч супакоіўся. А тут яшчэ, не даязджаючы кілометры са два да Цалуек, там, дзе дарога з лесу выйшла ў поле, вецер надзьмуў папярок яе снежны сумёт, і як ні рваўся стары аўтобус пераскочыць яго, ён не даў рады. Пакуль шафёр з трыма астатнімі пасажырамі расчышчалі снег, Самуіл Дармідонтавіч глядзеў праз ветравое шкло на зялёны агеньчык семафора станцыі Цалуйкі, і сэрца яго аж разрывалася.

— Хутчэй вы там!.. — хацелася яму крыкнуць. Але ён змоўчаў, бо расчышчалі дарогу такія-ж пасажыры, як і ён сам, і ў яго не хапіла смеласці крычаць на іх.

Урэшце машына зноў кранулася. Самуілу Дармідонтавічу прыветна ўсміхаўся, міргаў зялёны агеньчык семафора. Але ў момант, калі аўтобусу трэба было падкаціць пад ганак станцыі, зялёны агеньчык пагас і замест яго бліснуў чырвоны.

— Што вы нарабілі! — закрычаў Самуіл Дармідонтавіч. — Без нажа зарэзалі!

Ён схапіў свой чамадан і на хаду выскачыў з машыны. Кінуўся да касы, але акенца яе ўжо было зачынена. На пероне Самуіл Дармідонтавіч і ўсе, хто бег за ім, убачылі толькі хвост поезда.

— Што вы нарабілі! Што вы нарабілі, адкажыце мне! — накінуўся Самуіл Дармідонтавіч на чалавека ў чырвонай шапцы і ў вялізных валёнках, які ішоў да дзвярэй станцыі.

— Як, што нарабіў?.. — перапытаў той. — Поезд адправіў.

— Вы мяне без нажа зарэзалі. Ведаеце, што вы мне сарвалі?

— І ведаць не хачу, — адказаў начальнік станцыі. — Я ведаю адно, што я не сарваў графік руху, а што вы на навагодні вечар не трапілі, дык гэта не бяда. Новы год не толькі да вас у горад прыходзіць, а і да нас заглядае. З ім і тут можна будзе чокнуцца.

— Вы мне сарвалі... — паімкнуўся яшчэ раз крыкнуць Самуіл Дармідонтавіч, але яго перабіў малады чалавек у лёгкім асеннім паліто, у шапцы-вушанцы. Звалі яго Валодзя Дрозд.

— А мне-такі вы сарвалі вельмі важнае мерапрыемства. Я сёння павінен быў выступаць з дакладам на маладзёжным навагоднім вечары.

— І гэта бяда не вялікая... — спакойна заўважыў начальнік станцыі. — Можа і лепш, што вы не будзеце выступаць, весялей вечар пройдзе.

— Весялей, весялей...—ускіпеў комсамольскі работнік.

— А мне от вы сапраўды сарвалі, — умяшаўся ў гаворку артыст Белдзяржэстрады Пятро Дудкін. — Гэта-ж падумаць, два месяцы рыхтаваў новую праграму, каб выканаць яе на гарадскім навагоднім бале, і вось — на табе!..

Умяшаўся ў гаворку і малады чалавек у вайсковай вопратцы Алесь Зелянюк.

— Мне горш за ўсіх, — у мяне сарвалі сустрэчу з маці, якую я не бачыў два гады.

Маўчаў толькі, усміхаючыся сам сабе ў вусы, Спірыдон Макаравіч Грэчка. Яму, вядома, таксама хацелася быць сёння дома і са сваёй старой сустрэць Новы год. Аднак, што-ж ты зробіш, калі інакш здарылася. Ён толькі спытаў у начальніка:

— Скажыце, калі ласка, а калі другі бліжэйшы цягнік будзе?

— Нічога вам абяцаць не магу. Другі пасажырскі цягнік будзе заўтра ў гэтую-ж пару. Скоры праходзіць у тры гадзіны ночы, але ён у нас не спыняецца.

— Што вы мне нарабілі, — крычаў недзе на двары Самуіл Дармідонтавіч. — Давайце мне кнігу скаргаў. Я напішу на вас.

— Якую кнігу скаргаў? — чуўся здзіўлены голас шафёра. — Хто гэта на аўтобусе возіць кнігу скаргаў?

— На кожным дзяржаўным прадпрыемстве, у кожнай установе павінна быць кніга скаргаў, — настойліва даводзіў сваё Самуіл Дармідонтавіч.

— Дык то-ж на прадпрыемстве, ва ўстанове, а гэта-ж аўтобус. А калі вам ужо гэтак хочацца напісаць скаргу, дык паедзем у Залессе, там і напішаце, — спакойна адказваў шафёр.

— Мне тое ваша Залессе і так ужо ў пячонках сядзіць. Пішыце мне даведку, што я з-за вас спазніўся, — пайшоў на кампраміс Самуіл Дармідонтавіч. Ён выняў з партфеля вялізны блакнот, дастаў з кішэні ручку-самапіску і пачаў нешта пісаць.

Шафёр прабег вачыма напісанае і, сам сабе ўсміхнуўшыся, кручкавата распісаўся. Чалавек з некаторым задавальненнем зірнуў на подпіс, а потым, відаць, спахапіўшыся: хто-ж паверыць гэтаму подпісу, такіх подпісаў можна назбіраць колькі хочаш, спытаў:

— Стандартных бланкаў у вас ніякіх няма?

— Няма, — адказаў шафёр.

— Хадземце да начальніка станцыі, няхай ён заверыць пячаткаю ваш уласнаручны подпіс!

Пакуль ішла размова паміж начальнікам і Самуілам Дармідонтавічам, шафёр непрыкметна выслізнуў з кабінета, і, калі Самуіл Дармідонтавіч выбег з будынка станцыі, ён убачыў толькі чырвоны агеньчык стопсігнала, які ўсё аддаляўся і аддаляўся.

У залу Самуіл Дармідонтавіч вярнуўся сам не свой: яго не столькі непакоіла тое, што ён не сустрэне Новы год у сям'і, як тое, што надоечы ён паабяцаў свайму начальніку — упраўляючаму канторы «Белзаготмарынадзасолгрыб» — прывезці на закусь для навагодняй бяседы марынаваных грыбкоў. А цяпер што можа падумаць пра яго ўпраўляючы? Ніколі-ж не было, каб Самуіл Дармідонтавіч не выканаў просьбы свайго начальніка, не кажучы ўжо пра загады. А тут на табе!..

Астатнія пасажыры таксама хваляваліся. З кутка ў куток бегаў па невялікай апусцелай зале, утаймоўваў сваё ўзрушэнне Валодзя Дрозд. Ён кінуўся да кабінета начальніка і ўзмаліўся:

— Ці нельга ад вас даць тэлеграму?

— Якую? Віншавальную?

— Ды не! Якую там віншавальную... Каб вечара не адкладвалі, а праводзілі без мяне.



Начальнік усміхнуўся сам сабе і сказаў:

— Не бойцеся, Новага года не адкладуць. Яго ніяк нельга адкласці.

Самуіл Дармідонтавіч ізноў уварваўся ў кабінет і ўжо гнеўна закрычаў:

— Патрабую адзначыць мне камандзіроўку, што я на гэтай вашай станцыі на цэлыя суткі затрымаўся па вашай віне.

— Не магу, — коратка адказаў начальнік.—Будзеце браць білет, вам касірша паставіць кампосцер.

А час няўмольна ішоў уперад. Спірыдон Грэчка, застаўшыся ў зале толькі ўдвох з Зеленюком, зірнуў на яго і спытаў:

— Дык што, міл чалавек, гэтак і будзем сядзець?

— Чаго-ж так. Вунь-жа ў мяне гармонік ёсць, — і ён адчыніў свой чамадан і дастаў адтуль баян. — Сябра мой, — сказаў сам сабе задуменна, — усе гады ў арміі са мной праслужыў, а цяпер у калгасе думаем з ім службу працягваць!

— Малайчына! — не вытрымаў Спірыдон Грэчка. — Значыць, нашага палку прыбывае.

— А вы, прабачце, хто будзеце такі? — спытаў Алесь.

Замест адказу Спірыдон расхінуў крыссё свайго дубленага кажуха, і Зеленюк убачыў на яго грудзях медаль Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.

— О, дык вы... — хацеў ён нешта сказаць, але Спірыдон Грэчка не даў яму дакончыць, ён, відаць, не любіў хвалы і прапанаваў:

— Павесялі нас, хлопча!

Алесь прайшоўся пальцамі па гузіках баяна, і той загаманіў. Адразу ціхая, закінутая ў зімовай сцюжы будыніна станцыі ажыла, у ёй нібы пацяплела. З кабінета выглянуў начальнік станцыі, з дзвярэй бакоўкі буфетчыца Прося, якая ўжо, відаць, упарадкаваўшы ўсё, ладзілася зачыняць буфет.

— От гэта голас! — усклікнуў начальнік, падыходзячы да вайскоўца. Прыцягнуліся Самуіл Дармідонтавіч, Валодзя Дрозд і Пятро Дудкін. Усе неяк павесялелі, ажывіліся. Спірыдон Грэчка звярнуўся да начальніка:

— У вас, часам, сякеры тут няма?

— А навошта яна вам?

— Дзівак, хіба-ж можна без ёлкі сустракаць Новы год?

— Вядома што нельга, — уставіла буфетчыца Прося і хутка прынесла Спірыдону сякеру.

Умомант прынеслі з лесу ёлку. Знайшлося колькі свечак, а ў Алеся ў чамадане былі нават цацкі, якія ён вёз на гасцінец сваёй маленькай сястрычцы. Начальнік загадаў Просі саставіць у буфеце сталы. Спірыдон Грэчка ўмацаваў ёлку, павесіў на яе цацкі, запаліў свечкі. Толькі Самуіл Дармідонтавіч хадзіў, як сам не свой, не ведаючы, да чаго прыкласці рукі.

— Прося, падавай твае запасы, — закамандаваў начальнік станцыі.

Стол умомант быў накрыты: на ім стаялі бутэлькі з віном, закуска з буфета. Стары Спірыдон развязаў торбачку і паклаў на стол добры кавалак сала. Алесь паставіў на стол бутэльку каньяку.

Калі стол быў накрыты, Спірыдон Макаравіч шырокім жэстам запрасіў прысутных:

— Прашу, дарагія таварышы... Раз так нам давялося, дык не вешаць-жа галавы.

Першым сеў Пятро Дудкін, потым, як-бы нехаця, Валодзя Дрозд. Алесь прыладзіўся з краю стала, каб зручна было расцягваць мех гармоніка. Спірыдон Макаравіч пасадзіў начальніка станцыі, буфетчыцу Просю, Бавіўся толькі Самуіл Дармідонтавіч. Ён не ведаў, што яму рабіць. Толькі тады, калі Спірыдон Макаравіч спытаў: «Ну, а вы чаго там адны?», ён прымасціўся ля стала.

Куранты прабілі дванаццаць. З поўнымі чаркамі, стоячы, чокнуліся. Спірыдон Макаравіч сказаў:

— Дзе-б мы, савецкія людзі, ні былі, дзе-б нам ні давялося сустракаць Новы год, мы яго заўсёды сустракаем, як дарагога госця, як год яшчэ большага шчасця. З Новым годам, таварышы!

Выпілі па адной, па другой. Валодзя Дрозд сказаў некалькі слоў. Спірыдон Макаравіч, усміхнуўшыся, звярнуўся да юнака:

— А ты баўся, што прамова твая прападзе,—і далей прапанаваў:

— Цяпер няхай таварыш артыст праспявае сваю песню, якую ён не давёз да горада.

Пятро Дудкін адкашляўся і, перш чым заспяваць, сказаў:

— Гэта з майго новага рэпертуару. Гэтай песні я яшчэ нідзе не выконваў. — І пачаў:

Рэжце голасна, басы,
Пра палеткі, пра лясы...

Яму здавалася, што гэта і ёсць самае галоўнае, тое, што павінна ўсхваляваць душы слухачоў. Скончыўшы, чакаў адабрэння, аднак воплескаў не было. Толькі Спірыдон Макаравіч, уцёршы вусы, з хітрынкай усміхнуўся і падпеў у тон Дудкіну:

Каб цябе пабіла градам
З тваёй гэткаю эстрадай.



Гаманілі, смяяліся. Самуіл Дармідонтавіч, які ўвесь час сядзеў маўклівы і пануры, пацягнуўся да свайго чамадана, адчыніў яго і паставіў на стол дзве баначкі марынаваных грыбоў.

— Нашага марынаду, — прамовіў ён, і запрасіў: — Калі ласка.

— Такую закусь хавае, — упікнуў яго Спірыдон Макаравіч.

— Гэта-ж па заказу кіраўніка нашага зроблены. Вёз яму...

— Ды не давёз, — уставіў гарманіст. — А і добра, што не давёз. От і закусім...

— Вам добра, а мне як будзе... Можа-б вы, таварыш начальнік станцыі, усё-ж адзначылі ў камандзіроўцы, што я затрымаўся на цэлыя суткі, — папрасіў Самуіл Дармідонтавіч.

— Не трэба. Я вас усіх адпраўлю раней. Тут ёсць людзі, якіх нельга не адправіць, хоць і шкада з імі расставацца.

Начальнік пайшоў у дыспетчарскую. Праз колькі хвілін ён паведаміў, што дамовіўся з суседняй станцыяй, каб на хвіліну спынілі скоры цягнік, які будзе ісці зараз, у тры гадзіны ночы.

А неўзабаве начальнік станцыі і Прося стаялі на пероне. У далечыні ўжо ледзь віднеліся чырвоныя зоркі скорага.

— Добра сустрэлі Новы год? — звярнуўся начальнік да буфетчыцы.

— Весела сустрэлі...

— То-та-ж. Дзе-б ні быў наш савецкі чалавек, ён не можа не павесяліцца разам з усёй нашай краінай.

Мікола НАГНІБЯДА

## Берагавая слабада

Парой юнацкаю калісь
Я з другам плыў Дняпром уніз —
Праз несціханыя парогі,
Лясы Смаленшчыны, разлогі,
Да беларускіх берагоў,
Дзе шум Бярэзінскіх бароў.

Быў гэты шлях не адзінокі —
Дзяўчат сустрэлі сінявокіх
І плытагонаў, леснікоў —
Вясёлых, добрых дружбакоў;
Яны размову завядуць,
Яшчэ і спеў табе складуць.

А ў Слабадзе берагавой
Сказаў у даль таварыш мой:
— Шырокі свет, юнацтва ўзлёт!
Мне сёння роўна дваццаць год...
І друга моцна я абняў,
Над намі вечар зоры ўзняў...

На лузе я расклаў касцёр
І ён склікаў да нас на збор
Мясцовых песенніц умелых
І плытагонаў загарэлых;
Каваль прыкрочыў з Слабады,
Услед пастух ішоў сюды.

На лузе ветразь мы паклалі —
Замест абруса разаслалі...
Ляснік на свята мёду-брагі
Прынёс дзве поўныя біклагі,
Жывую вязку акунёў
Нам падарыў хтось з рыбакоў.

А пастушок на памяць нам
Сваю жалейку даў. Ён сам
На лузе рэзаў тую дудку,
Яна і ў радасці, і ў смутку
Спявала ўвосень і зімой
Над Слабадой берагавой.

Нам беларускія дзяўчаты
Прынеслі хлеб духмяны з хаты,
Яго нарэзвалі паволі
Для ўсіх, хто быў у дружным коле.
Ля края ветразя, як крылы,
Кружылі рукі плаўна, міла.

Мы да зары ўсю ноч спявалі,
Мы з нараджэння днём віталі...
Калі займаліся праменні,
Тады стары каваль з кішэні
Для друга крэсіва дастаў,
Што з даўняе пары хаваў:

— Ты беражы ў дарозе новай
Агонь і хлеб, і дружбы слова!
Хай працай жнеі, каваля
Квітнее для цябе зямля.
Няхай жалейка радасць лье,
І дружба сілы надае.

Пара, пара ў дарогу нам!
Мы пакланіліся палям
І добрым людзям дарагім,
Мы сэрца падарылі ім,
Навек узяўшы ў ранак той
На памяць Беларусь з сабой.

Пераклад з украінскай мовы
Эдзі АГНЯЦВЕТ.



Палац культуры ў Варшаве.

# У БРАТНЯЙ ПОЛЬШЧЫ

**Б. ЯНПОЛЬСКІ, Э. ШАПКО,**
**заслужаныя артысты БССР**

**Дарожныя нататкі**

У верасні мінулага года мы, як прадстаўнікі беларускага мастацтва, паехалі ў Польскую Народную Рэспубліку на дэкаду польска-савецкай дружбы. Усхваляваныя, крочылі мы па вуліцах Варшавы, залітых яркімі сонечнымі праменнямі, дзе чароды галубоў смела расхаджвалі сярод прахожых. Дзеці кідалі птушкам хлебныя крошкі. Больш смелыя галубы садзіліся дзецям на плечы, на працягнутыя рукі. Мы доўга любаваліся гэтым цудоўным відовішчам, якое стала тут традыцыяй.

У цэнтры новай, самай вялікай плошчы імя Сталіна, як сімвал дружбы, велічна ўзвышаецца падарунак польскаму народу ад савецкіх людзей — Палац культуры і навукі. Вышыня яго 231 метр. Гэты цудоўны твор архітэктурнага мастацтва штодзённа наведваюць ад васьмі да дзесяці тысяч экскурсантаў, у святочныя-ж дні іх значна больш: яны прыязджаюць з усіх канцоў рэспублікі. Да адной з такіх экскурсій далучыліся і мы.

Архітэктура палаца, яго надзвычайнае знешняе і ўнутранае афармленне, прыгожыя шматлікія аўдыторыі, басейн і зімовы сад, цудоўныя і зручныя канферэнц-зала і тэатральныя памяшканні выклікалі захапленне ў польскіх таварышаў. Мы-ж былі не толькі ў захапленні, але і ганарыліся сваімі ўмелымі будаўнікамі.

Варшава, якая была зруйнавана гітлераўскімі акупантамі, хутка аднаўляецца, расце, жыве кіпучым жыццём. Яна гарманічна спалучае прыгажосць гістарычных помнікаў і навейшыя дасягненні сучаснай тэхнікі. Побач з адноўленым замкам Бельведэр і старым горадам з яго гістарычнымі будынкамі, палацамі, касцёламі і крэпаснымі сценамі занава пабудаваны цэлы шэраг вуліц, кварталаў і раёнаў. У цэнтры горада пастаўлены помнікі Капернiку, Адаму Міцкевічу, Феліксу Дзержынскаму.

На вуліцах Варшавы вялікі рух гарадскога транспарту. Аднак шум у горадзе нязначны, дзякуючы правілам, якія забараняюць шафёрам сігналіць. За гудок шафёраў аўтамашын штрафуюць. Гэта абавязвае іх быць асцярожнымі, не дазваляе ў горадзе развіваць вялікую хуткасць, дысцыплінуе насельніцтва і значна скарачае лік аварый і катастроф.

Незвычайнае ўражанне зрабіў на нас Лазенкаўскі парк з яго старажытнымі палацамі і азёрамі, у якіх шмат рыбы і па якіх велічна плаваюць лебедзі. Лязенкі — гэта любімае месца адпачынку варшавян. Тут мы зноў сутыкнуліся з выдатнай традыцыяй насельніцтва — кармленнем рыбы і птушак, якія без усялякага страху падплывалі да берага і літаральна з рук бралі ежу. Хтосьці з нашых таварышаў кінуў у ваду кавалак хлеба. Да яго адначасова падплылі лебедзь і карп. Пачалася барацьба. Але яна працягвалася нядоўга. Перамог вялікі пражэрлівы карп.

Выключна жывапісная аўтатраса Варшава — Лодзь. Па абочынах яе растуць старыя дубы, каштаны і маладыя бярозкі.

Праз гадзіну мы звярнулі з цэнтральнай трасы і неўзабаве прыехалі ў Жэлязову Волю, дзе нарадзіўся, жыў і тварыў Фрэдэрык Шапэн, які сваёй музычнай творчасцю здабыў сусветную славу і павагу. З вялікім хваляваннем аглядалі мы скромныя пакоі невялікага доміка, мэблю, рэчы і кнігі, якімі карыстаўся геніяльны кампазітар. Пасля накіраваліся ў Шапэнаўскі парк, прайшлі міма волатаў-каштанаў, якія незвычайна разрасліся, асабліва ўшырыню. Ценістая алея, абсаджаная кветкамі, вяла да вялізнага дрэва незнаёмай нам пароды, з мудрагеліста сплеценымі галінамі, растучымі ўніз. Гэтыя галіны стварылі прасторную і ўтульную альтанку. Далей спусціліся па каменных прыступках і мосціку да цэнтральнай часткі парка, дзе хвойныя дрэвы і кусты, густа пераплеценыя між сабой, стварылі эстраду-ракавіну. На гэтай эстрадзе адбываюцца канцэрты, прысвечаныя памяці вялікага кампазітара. Сама эстрада аддзяляецца ад месц гледачоў рэчкай, якая называецца «Утрата». Нас вельмі здзівіла цудоўная акустыка гэтай вечна зялёнай ракавіны.

Маладыя будаўнікі Варшавы.



Ежы ЛІТВІНЮК

## НАШ ЧАС

Шмат прыгадваць не патрэбна зараз:
аб любімых, пахаваных тварах,
аб праклятых вуліцах, хацінах,
што затручваліся зелянінай,
аб юнацтве, што агнём скасіла,
і аб смерці, што з-за дроту кпіла.

Да жыцця абуджаныя зараз,
мы заўчасна спелі ў пажарах,
ў школе цяжкіх год за час кароткі
мудрасць горкую вучылі продкаў,
а нянавісць-жа — зброя сляпая,
зараджаў яе, хто пажадае.

Скрозь пажары зброя нас вадзіла,
з сэрцам цвёрдым, што, як шлак, астыла.
Не адзін з нас крочыў з непакоем,
не адзін твар закрываў рукою,
як па-над фашызмам нелюдзімым
ўбачыў зыркае святло радзімы.

Даспяваць нам сёння ў яе сонцы,
вышай дрэў расці ўгару бясконца,
ад падмурка уздымаць над краем
веру у жыццё, расце якая,
быццам гмахі школ, дамоў, заводаў,
як нянавісць і любоў народа.

Шлях у нас не лёгкі і не гладкі,
ёсць штодзённа ў працы непаладкі,
але тут-жа — песень панаванне,
поўнага свабоднага дыхання,
радасці і гордасці даволі —
адабраць гэтага не дазволім!

Гора тым, якія зноўку прагнуць
саштурхнуць у цемру нас і ў багну,
засланіць імглой крывавай вочы,
маладосць з красой украсці хочуць,
хто гісторыю спыніць гатовы, —
ўсе на рэйкі ёй складуць галовы.

Дзень наш сённяшні — жывым струменем
ападае на далонь — натхненне,
плод, што даспявае ў агародзе
і ралля, якая добра родзіць,
а нашчадак твой, каго вітаеш:
гаспадар шчаслівы ў вольным краі.

Пераклаў з польскай мовы
Мікола АЎРАМЧЫК.

Шапэнаўскі парк — адзін з лепшых у свеце. У насаджэнні яго прымалі ўдзел многія краіны свету, прысылаючы свае лепшыя дрэвы, кусты, кветкі.

Нам не хацелася пакідаць гэтую ціхую, казачную мясціну, якая з такой любоўю ахоўваецца польскім народам. Але ўжо змяркалася, а нам трэба было прадаўжаць шлях.

Калі мы пад'язджалі да Лодзі, горад свяціўся агнямі.

Лодзь палякі з гонарам называюць «польскім Манчэсцерам». Тут сканцэнтравана вялікая колькасць буйных тэкстыльных фабрык і мноства магазінаў. Горад Лодзь, як і Кракаў, уцалеў у вайну і захаваў свой своеасаблівы даўні выгляд. З ліку 655-тысячнага насельніцтва Лодзі асноўная маса — рабочыя. У часе нашых размоў з лодзінскімі ткачамі мы даведаліся, што яны свята шануюць і захоўваюць памяць аб традыцыях удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Лодзі.

Зараз Лодзь з'яўляецца не толькі буйным прамысловым, але і культурным цэнтрам, дзе знаходзіцца шмат навуковых, вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, музеяў і тэатраў. Па колькасці тэатраў горад займае другое месца ў рэспубліцы.

Вялікую цікавасць да нашага прыезду праявілі лодзінскія піонеры. Яны прышлі ў гасцініцу і прасілі дазволу бываць сярод нас, каб замацоўваць свае веды па рускай мове, якую яны вывучаюць у школе. Піонеры запрасілі нашых таварышаў пазнаёміцца з іх жыццём і вучобай. Малчанаў, Галіна і Станюта наведалі дзяцей, якія ў знак удзячнасці падаравалі альбом з фотаздымкамі і пачку лістоў для мінскіх піонераў.

У часе знаходжання ў Польшчы мы на кожным кроку адчувалі вялікую ўвагу і клопаты аб нас з боку Камітэта польска-савецкай дружбы і польскага ўрада. Пасля Лодзі мы павінны былі выехаць у Беласток для паказу сваіх спектакляў. Але, даведаўшыся аб нашым жаданні пабываць у Кракаве і азнаёміцца з яго гістарычнымі мясцінамі, польскі ўрад прадаставіў нам спецыяльны цягнік з мяккімі камфартабельнымі вагонамі для паездкі туды.

Кракаў зачараваў нас сваёй архітэктурай. Сярод шматлікіх старажытных будынкаў, якія ўцалелі ад сярэдніх вякоў, цэнтральнае месца займае каралеўскі замак Вавель. У XVI стагоддзі гэты замак быў перабудаваны ў стылі рэнесанса.

Не меншую цікавасць уяўляе Марыяцкі касцёл XIII стагоддзя з вядомым алтаром работы выдатнага польскага скульптара і жывапісца Віта Ствоша. Мы захапляліся гэтай вялікай па памеру, таленавіта выкананай разьбой па дрэву. Вельмі прыгожая і велічная архітэктура Марыяцкага касцёла, аб якім польскі народ збярог легенду, што дайшла да нашых дзён. Вось кароткі змест яе.

У далёкія часы на Кракаў напалі ворагі. Салдат, які стаяў на вежы касцёла, затрубіў і падняў трывогу, але варожая страла трапіла яму ў горла, і разам з жыццём абарвалася і мелодыя. З тых часоў кожную гадзіну на вежы гэтага касцёла з'яўляецца салдат з трубой і на ўсе чатыры бакі горада грае трывожную мелодыю, якая нечакана абрываецца. Гэты сігнал транслююцца па ўсёй Польшчы, і жыхары звяраюць па ім час.

За Марыяцкім касцёлам узвышаецца гатычная вежа ратушы і бачна характэрнае памяшканне сярэдневяковых гандлёвых радоў, якія называюць «сукеніцамі». Гэтыя старажытныя крамы, у якіх прадавалася сукно, размешчаны ў цэнтры рынка. Там мы купілі некаторыя цацкі саматужнай работы на памяць аб наведванні Кракава.

Мы спускаліся ў склеп Вавелеўскага замка, у якім пахаваны ўсе польскія каралі і вяльможы. Сюды-ж перавезены астанкі А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, Т. Касцюшкі.

Кракаў здзіўляе мноствам старажытных касцёлаў з іх багаццем унутраных упрыгожанняў, раскошай замка і скульптурных магільных склепаў.

Марыяцкі касцёл у Кракаве.





І ў новых гістарычных умовах горад працягвае свае найлепшыя традыцыі як буйны цэнтр польскай навукі і культуры. Тут створаны новыя бібліятэкі, дамы культуры, школы, музеі, тэатры і вышэйшыя навучальныя ўстановы, у якіх навучаюцца тысячы будучых будаўнікоў народнай Польшчы.

Асабліва цікавіла нас тэатральнае мастацтва, і мы, акрамя жывой сувязі з работнікамі тэатраў, пацікавіліся некаторымі лічбамі, якія сведчаць аб колькасным росце польскіх тэатраў. Калі ў 1936 годзе ў Польшчы было ўсяго 32 тэатры, дык у 1955 годзе іх налічваецца 120.

Домік Шапэна.



Увесь вольны ад працы час мы прысвяцілі наведванню буйных прадпрыемстваў, музеяў і тэатраў, пазнаёміліся з вялікай музычнай культурай тэатраў оперы і музкамедыі. Мы бачылі шэраг выдатных спектакляў на гістарычныя і сучасныя тэмы ў варшаўскіх і лодзінскіх драматычных тэатрах. Вельмі добрае ўражанне зрабілі на нас такія спектаклі, як «Мазепа» Славацкага ў Лодзінскім тэатры, «Вяселле» Выспяньскага, «Ларэнзацыё» Альфрэда Мусека, «Краковяцы і гуралі» Багуслаўскага ў выдатнай пастаноўцы Леона Шылера ў варшаўскіх тэатрах. Асаблівую эстэтычную асалоду мы атрымалі ад п'есы Эдуарда дэ Філіпо «Неапаль горад мільянераў» у выкананні таленавітага калектыву тэатра «Атэнеум». Ад усяе душы мы выказалі сваю ўдзячнасць цудоўным выканаўцам за тую ўсхваляванасць, якую яны выклікалі ў нас сваёй шчырай, тонкай, рэалістычнай ігрой.

Мы пазнаёміліся з выдатнай плеядай таленавітых польскіх артыстаў.

У заключэнне хочацца коратка расказаць аб нашых шматлікіх незабыўных і хвалюючых сустрэчах з польскімі гледачамі.

За 28 дзён мы сыгралі 21 спектакль у Варшаве, Лодзі і Беластоку і далі 21 спектакль-канцэрт на заводах, фабрыках, у сельскагаспадарчых кааператывах і ў павятовых клубах.

Нашы спектаклі ўсюды прымаліся цёпла і шчыра, жаданне трапіць на іх было вялікае. Сотні людзей, якія не маглі набыць білеты, тоўпіліся каля тэатральных пад'ездаў. Многія спынялі нашых работнікаў і прасілі даць ім магчымасць, хоць-бы стоячы, паглядзець нашы спектаклі.

Пасля кожнай нашай пастаноўкі сцэнічная пляцоўка запаўнялася жывымі кветкамі. Гучалі палымяныя словы дружбы, і доўга не сціхалі воплескі, якія пераходзілі ў авацыю.

На спектаклі «Даходнае месца» Астроўскага прысутнічалі члены польскага ўрада—Берут, Цыранкевіч, Завадскі і Ракасоўскі. Ад іх былі прынесены ў закулісную частку кветкі з асабістымі карткамі, а пасля спектакля яны горача дзякавалі ўдзельнікам за дастаўленае задавальненне.

У павеце Элькі Беластоцкага ваяводства нас сустрэлі настаўнікі, студэнты і вучні з кветкамі і садавінай. Мы паказалі ім урыўкі з некаторых спектакляў. Пасля прагляду нас запрасілі на сяброўскую вячэру. Нямала было сказана тут цёплых слоў, якія заканчваліся воклічамі: «Хай жыве польска-савецкая дружба!» Гучалі польскія, рускія і беларускія песні ў суправаджэнні нашага баяніста, затым пачаліся агульныя танцы. Перад ад'ездам нам урачыста прыпаднеслі саматканае шарсцяное пакрывала. Развітваючыся, усхваляваныя, мы па-сяброўску паціскалі рукі нашых новых сяброў. Надоўга запомняцца гэтыя простыя і мілыя гасцінныя людзі.

У павеце Монькі нас радасна сустрэлі маладыя будаўнікі, хлопцы і дзяўчаты. Па дарозе яны расказвалі, што некалькі год таму назад Монькі былі маленькім мястэчкам, падобным на хутарок, у якім налічвалася ўсяго пяць-шэсць хацінак.

— А цяпер,— растлумачваў сакратар маладзёжнай арганізацыі,— гляньце! Усе гэтыя жылыя дамы, ільнакамбінат, клуб, на адкрыццё якога вы, дарэчы, прыехалі, пабудаваны рукамі нашай моладзі.

У гутарцы мы высветлілі, што моладзь тут сістэматычна займаецца, вывучае гісторыю свайго народа, вопыт савецкіх камсамольцаў і гісторыю Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Неяк лёгка і проста адчувалі мы сябе сярод гэтых энергічных маладых людзей, якія ўпэўнены ў сваёй цудоўнай будучыні.

Радасная сустрэча адбылася ў нас і ў сельскагаспадарчым кааператыве імя Ракасоўскага Беластоцкага ваяводства. Пасля канцэрта, дадзенага там, адбылося сапраўднае свята дружбы. Паказваючы свае шырокія палі, нас прасілі звярнуць увагу на тое, як усё больш і больш робяцца непрыкметнымі вузкія аднаасобныя палоскі зямлі сярод кааператыўных масіваў.

Глыбока ўсхваляваў нас у Сувалках невялікі самадзейны духавы аркестр, які, сустракаючы нас, выканаў тры гімны — савецкі, польскі і беларускі.

У Беластоку нас сустракалі прадстаўнікі горада, тэатральныя работнікі, вучні і гурток фабрычнай самадзейнасці, усе ўдзельнікі якога былі апрануты ў яркія нацыянальныя касцюмы.

Свае сустрэчы мы заканчвалі звычайна складзенай намі экспромтам невялікай песняй на матыў «Бывайце здаровы», якая заканчвалася словамі:

Мы шчыра жадаем,
Каб Польшча квітнела,
Каб дружба між намі
Расла і мацнела.
Прыехаць вас просім
Да нашае хаты,
Бывайце здаровы,
Жывіце багата!

Ад'язджаючы з Беластока, мы падаравалі мясцоваму камітэту польска-савецкай дружбы мазаічны партрэт Янкі Купалы, напісаўшы да яго невялікі вершаваны тэкст.

Усё гэта горача прымалася народам. Нават пры развітальнай сустрэчы ў польскім Сейме нас прасілі пакінуць на ўспамін словы і музыку нашай сціплай песні, якую мы заўсёды выконвалі ўсім калектывам у суправаджэнні аркестра.

Паездка ў братнюю Польскую Народную Рэспубліку творча ўзбагаціла нас, прынесла нам вялікую карысць.

Мы яшчэ больш пераканаліся ў дружбе паміж польскім і савецкім народамі, якая расце і мацнее з кожным годам.

# Я не ведаў, хто ты

**Музыка Мар'яна НАСКО** **Словы Максіма ТАНКА**

Andante

Я не ведаў, хто ты,
Хоць слядоў шукаў
Па густых чаротах,
Між купальскіх траў.
І позірк твой гарачы
Я начной парой
У кожнай зорцы бачыў,
Кветцы палявой.

Вуснаў тваіх дотык
Адчуваў я на'т
Праз дажджы і слоту
У позні лістапад.
Да твайго прыходу
Абяцалі мне
З вечара да ўсходу
Салаўі звінець.



# Маці

**Апавяданне**

**Яўген КАРШУКОЎ**

Мал. Л. Шчэмелева

У хаце было ціха. Ад лямпы з укручаным кнотам кругамі разыходзілася святло, і на сценах плямамі рухаліся мутныя цені. Аляксандра Пятроўна ляжала з расплюснутымі вачыма, намагалася заснуць, але не магла. Натруджанае за дзень цела ныла, ламала ад раматусу ногі. Цяжка вось гэтак, пад старасць гадоў, жыць адной... Дні цякуць аднастайна, доўгія ночы здаюцца цэлай вечнасцю. Недзе далёка, у горадзе, жыве дачка Аляксандры Пятроўны... Як хочацца хутчэй пабачыць яе, паняньчыць унукаў! Кожны прыезд дачкі быў для Аляксандры Пятроўны незвычайным шчасцем. Цэлыя дні яна забаўляла ўнучку, насіла па суседзях, і з яе старэчага худога твару не сыходзіла радасць. І хоць у кожным пісьме запрашала дачка з зяцем прыехаць да іх жыць або хоць у госці, Аляксандра Пятроўна ўсё не згаджалася. У госці ехаць — гаспадарку няма на каго кінуць ды і ехаць трэба недзе за свет. А на жыхарства?.. І адпісвала Аляксандра Пятроўна, што пачакае крыху, што хутка... сын павінен прыехаць, а з кім-жа ёй жыць, як не з сынам?

І добра зрабіла, быццам сэрца матчына чула, што не трэба згаджацца з дачкой... Здарылася зусім нечаканае. Сустрэў учора Аляксандру Пятроўну старшыня і кажа: «Ну, Аляксандра Пятроўна, рыхтуйся гасцей сустракаць... Не казаў табе да пары да часу: пасылаў-жа я зяцю твайму запрашэнне — вярнуцца ў калгас працаваць. Муляр ён вядомы, а работы па яго спецыяльнасці ў нас многа: вунь колькі будынкаў ставім! А яшчэ, трэба тыпавы кароўнік будаваць... Ну, словам, я і напісаў — прыязджай, калі розум маеш... Многія вяртаюцца цяпер у вёскі... А сёння атрымаў ліст ад яго: малайчына, даў згоду, у канцы месяца прыедзе. Дык вось, Аляксандра, рыхтуй чарку!»

Засмяяўся і пайшоў. Толькі Аляксандра Пятроўна доўга не магла крануцца з месца ад радасці, хоць і хацелася хутчэй бегчы з гэтай навіной да суседзяў...

Але не ад гэтага цяпер не спіцца Аляксандры Пятроўне, не аб гэтым яе думкі.

Сын, Алёша... Аляксандра Пятроўна кашлянула, павярнулася да акна. Позірк яе ўпаў на невялічкую з мудронымі ўзорамі этажэрку, стол з выточанымі ножкамі. І ёй успомнілася, як кожны вечар Алёша прыходзіў з работы, увесь прапахлы дрэвам, вясёлы, са стружкамі ў чорнай капе валасоў. А ў нядзелю да Алёшы часцяком наведваўся майстар сталярнага цэха Іван Прохараў, пажылы, з доўгімі абвіслымі вусамі чалавек. Гаварылі аб розным: аб справах у цэху, аб палітыцы. Часцей за ўсё майстар расказваў, а Алёша слухаў — моўчкі, сур'ёзна. У такія мінуты Аляксандра Пятроўна не зводзіла вачэй з сына, прагна ўглядалася ў яго твар, знаёмы і дарагі да самай маленькай рыскі. Пагутарыўшы, майстар уставаў, сурова, быццам папракаючы, звяртаўся да Аляксандры Пятроўны: «Вось што... Добры ў цябе сын, Аляксандра, добры... Сапраўдны чалавек з яго выйдзе».

Далёкі ўспамін абудзіў перапоўненае тугою сэрца, разварушыў уяўленні. Спаць Аляксандра Пятроўна не магла і ўсё думала, думала аб сыне.

Па вуліцы прайшлі дзяўчаты. Галасістая песня доўга не змаўкала, па-маладому лілася, хвалявалася. «З кіно, мабыць», — мільганула ў галаве Аляксандры Пятроўны. І ёй здалося, што зараз стукне брамка, дробна-дробна зазвініць пад алёшавымі пальцамі аконнае шкло... Яна нават трывожна прыўзнялася, але кругом было ціха, толькі надакучліва папіскваў цвыркун ды недзе ў другім канцы сяла заходзіўся ад брэху сабака.

Цяжка... Аж трашчыць галава ад думак і ўсё — аб Алёшы. Цэлых тры гады чакала Аляксандра Пятроўна сына. Кожнае пісьмо ад яго ўваходзіла ў хату, як свята, і хата быццам асвятлялася, рабілася прасторнай, новай. А калі доўга не было пісем, Аляксандра Пятроўна ішла на пошту, дапытвалася: ці не прапала яно, ці не згубіў паштальён Мішка... Апошні тыдзень яна таксама нецярпліва чакала весткі ад сына. І вось сёння атрымала. Аляксандра Пятроўна кідае позірк на стол, вочы затрымліваюцца на разгорнутым аркушыку. Пісьмо. Некалькі разоў перачытвала яго Аляксандра Пятроўна і не ведала, як адказаць сыну. Так і лягла спаць з пакутлівым пытаннем: згадзіцца з ім ці...

Не хочацца верыць Аляксандры Пятроўне, што яшчэ доўга давядзецца жыць ёй без Алёшы, са сваімі нязменнымі трывогамі-думамі аб сыне. А як-бы добра было, калі-б цяпер вярнуўся дахаты Алёша! Многія сябры яго папрыходзілі з арміі, жэняцца... Гэта-ж толькі за два тыдні на сяле тры вяселлі згулялі! Жылі-б і яны ўдваіх пакуль, а там... Сухія вусны Аляксандры Пятроўны ледзьледзь разыходзяцца ва ўсмешцы. Бачыць яна перад сабою смуглявы дзявочы твар Марынкі, суседавай дачкі, побач — кірпаты нос Алёшы... Нездарма-ж амаль кожны дзень заходзіць дзяўчына да Аляксандры Пятроўны, стараецца дапамагчы ёй па гаспадарцы... Заўважае часам Аляксандра Пятроўна ў вачах Марынкі такую засмучанасць, што хочацца прытуліць яе да сябе, прылашчыць, як роднае дзіця. Ды і хто не паважае Марынку на сяле — такая яна працавітая, прыгожая...

Рояцца думкі, змянюцца, і ўсплывае другое, сапраўднае. Хоча Аляксандра Пятроўна выкарыстаць сваё мацярынскае права і — не можа. Ёсць штосьці такое, што мацней за матчыны пачуцці, жаданні, штосьці больш важнае. Вочы Аляксандры Пятроўны нечакана цямнеюць, сціснутыя сківіцы паглыбляюць і без таго глыбокія ямкі на выцягнутых шчоках. Скрыпнуў ложак. Аляксандра Пятроўна скінула з сябе коўдру, паднялася. Падыйшла да стала, выкруціла кнот. Начныя матылькі спалохана закружыліся ад яркага святла. Аляксандра Пятроўна села, нахілілася над пісьмом. З хвіліну, прыжмурыўшыся, яна адшуквала нейкія радкі. Калі знайшла, шэптам сама сабе пачала чытаць: «А цяпер парайце, мама, як мне быць. Не хачу адставаць ад таварышаў, ды і ў самога жаданне вялікае... Як даведаўся я ад камандзіра, што прапануюць ехаць дэмабілізаваным на новыя землі, дык адразу падумаў: паеду. Толькі вось засумаваў вельмі па вас, мама, ды і вы хутчэй прыязджаць просіце...»

Аляксандра Пятроўна адклала ўбок ліст, дрыготкімі пальцамі выняла з канверта сынаву фотакартку. Глядзела доўга, быццам упершыню, глядзела, пакуль не ўздрыгнулі бровы і не заслала вочы туманам. Твар Алёшы напомніў аб старэйшым сыне, Васілю, які загінуў у час вайны на фронце. Мала жыў ён з маткай, здаецца, што толькі хлапчуком і запомніла яго Аляксандра Пятроўна, такім і сніць начамі... А які ён добры быў, разумны, працавіты! Бывала, цэлымі днямі працаваў у калгасе. Сярод вясковай моладзі верхаводзіў, сакратаром камсамольскім быў. А потым — вучыцца паехаў, а потым...

Баляць старыя раны, цяжка стрымаць слёзы. «І гэты-ж такі самы... непаседлівы», — думае Аляксандра Пятроўна аб Алёшы, выціраючы ражкамі хусткі вочы Але вось яна цяжка ўздыхнула і падсунула да сябе пачатае яшчэ днём пісьмо сыну.

Шурпатыя, патрэсканыя пальцы павольі выводзілі словы, поўныя бязмежнага мацярынскага пачуцця, простыя, як жыццёвая праўда. «Цяжка мне, — пісала Аляксандра Пятроўна, — змірыцца з тваім жаданнем, сынок. Старая я, бог ведае, колькі мне жыць засталося... І чакала я цябе, Алёшка, чакала ўсю тваю службу. Ды толькі не магу пайсці супроць чэсці бацькоўскай: едзь, сыночак, едзь — справа гэта вялікая, дзяржаўная... Брат твой, Васіль, таксама на Амур ездзіў...»

Заснула Аляксандра Пятроўна пад самую раніцу і сніўся ёй добры, асветлены ўсмешкай твар сына. Бачыла Аляксандра Пятроўна яго на полі, сярод высокага каласістага жыта, якое бясконца прасціралася ўдалячынь... А першыя ціхія прамені рухаліся ў хаце, мітусіліся па сценах і ласкава асвятлялі сівыя валасы маці.

# ЧАЛАВЕК СТАНОВІЦЦА Ў СТРОЙ

Выключны эпізод ляжыць у аснове аповесці С. Кузьменкі «Зноў у страі». Са шпіталю вяртаецца цяжка паранены салдат. У яго ампутаваны абедзьве нагі. Як сустрэне яго жонка, сябры? Што чакае напярэдзе гэтага некалі заслужанага трактарыста і камбайнера? Хмурыцца Пракоп Нектаў, невясёлыя думкі рояцца ў яго галаве.

Ззаду — шумлівая, запоўненая працай маладосць, фронт. А будучыня — туманная і неакрэсленая. Як ён выканае абяцанне, дадзенае загінуўшаму сябру — працаваць і весяліцца за дваіх? Як ператварыць трагедыю абставін у радасць жыцця?

Гэтыя складаныя жыццёвыя пытанні цалкам паглынаюць і ўвагу чытача. І хоць шмат адступленняў звязана з ранейшым жыццём героя, аповесць успрымаецца як лаканічны, сціслы твор.

Дынаміка адчуваецца не толькі ў аўтарскім стылі, але і ў самім характары Пракопа Нектава. Ён — чалавек справы. Вымушанае безрабоцце глыбока раніць яго душу. Нават запіў з гора Пракоп. Але яго моцная воля, перадсмяротныя словы франтавога сябра, няспынная ўвага да яго парторга Данілава і аднавяскоўцаў паступова вяртаюць Нектава зноў у строй.

Цікава і глыбока псіхалагічна абгрунтаваны гэты працэс станаўлення героя. Выразна паўстае перад намі Пракоп з яго вялікім горам і маленькімі ўдачамі. І таму, што ўдачы гэтыя малыя, ён незадаволены імі. Пачуццё незадаволення самім сабою, жаданне зрабіць больш і стаць карысным для людзей прыводзіць Нектава на мосцік камбайна.

Тут таксама нялёгка яму: старая машына, даўно ўжо спісаная з балансу, працуе дрэнна. Але не такі Нектаў, каб адступаць. Воля і працоўная мужнасць перамагаюць.

З хваляваннем чытаецца раздзел, у якім расказваецца, як аднавяскоўцы даведваюцца аб прысваенні Пракопу Васільевічу Нектаву звання Героя Сацыялістычнай Працы.

Адным з галоўных герояў аповесці з'яўляецца Данілаў, парторг калгаса. Гэта тактычны, удумлівы арганізатар, які ўмее быць, калі патрэбна, добрым, калі патрэбна — строгім. Патрабавальнасць да сябе і да людзей — асноўная рыса, якая кідаецца ў вочы пры першым знаёмстве з ім. Вялікай навукай валодае Данілаў, навукай — як з мінусаў рабіць плюсы. Гэтае ўменне ён перадае і другім. Пракоп, у жыцці якога спачатку было так шмат мінусаў, нямала абавязаны парторгу.

У аповесці вялікая колькасць дзеючых асоб. Многія з іх акрэслены вельмі каларытна (Мірон Чэпурных, Кузьма і Манефа Жмуркіны, дзед Ягорыч, гвардыі капітан Сяргей Сурнін, Ніна Махоткіна). З асаблівай цеплынёй намалявана жонка Нектава — Дуся. Разам са станаўленнем характару мужа ідзе працэс фармавання і яе характару. Гэта паказана зразумела і заканамерна: сямейнае жыццё не можа быць абмежавана сцэнамі дома. Дуся павольна, але няспынна ўваходзіць у грамадскае жыццё, пачынае разумець высокародныя душэўныя парыванні мужа. Трэба адзначыць нямалаважную ролю ў гэтым Пракопа.

Аб падзеях у жыцці герояў аўтар піша жыва, ярка, вобразна.

Матэрыял для аповесці ўзяты аўтарам з жыцця знатнага камбайнера краіны Пракопа Васільевіча Нектава. Яго пошукі, што прывялі да працоўнага подзвігу, падкажуць моладзі, як трэба змагацца з жыццёвымі цяжкасцямі, як «з мінусаў рабіць плюсы». У гэтым — каштоўнасць аповесці.

**Аляксей КЕЙЗЕРАЎ,**
**настаўнік Бронніцкай сярэдняй школы Гомельскай вобласці.**

# Погляд у будучыню



**Здаецца, зусім нядаўна ў сваёй вёсцы на Магілёўшчыне я скончыў сямігодку і прыехаў у Мінск, каб навучыцца кравецкай справе. І вось ужо чатыры гады, як пасля заканчэння профтэхшколы працую закройшчыкам верхняга мужчынскага адзення.**

**Некаторыя з маіх сяброў, што працуюць на вытворчасці, скардзяцца: няма калі вучыцца, працуешся, дык не да вучобы... У нас, у швейніку, таксама работа нялёгкая, але ж мы знаходзім час і для вучобы. Працуючы на вытворчасці, я атрымаў атэстат сталасці і цяпер вучуся завочна ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя В. І. Леніна.**

**У дваццаць год я атрымаў спецыяльнасць закройшчыка-канструктара. Хіба не гонар гэта для мяне, нядаўняга вясковага хлапчука! Як і кожнаму рабочаму, мне прыемна, калі пра маю працу скажуць: гэтая рэч зроблена прыгожа, з душою!**

**А для гэтага нам трэба адно: не заседжвацца на месцы, няспынна ўдасканальваць сваё майстэрства, вучыцца. У новым пяцігоддзі я мяркую дасканала авалодаць прафесіяй, якой прысвяціў жыццё, а таксама скончыць універсітэт.**

**Міхась ЕМЕЛЬЯНЕНКА,**
**канструктар-мадэльер мінскага атэлье індывідуальнага пашыву № 1.**

# НОВЫ ДЗЕНЬ У НАДНЯМОННІ

«Над Нёманам»... Так у мінулым стагоддзі назвала свой раман жыхарка беларускай зямлі, выдатная польская пісьменніца Эліза Ажэшка. Твор гэты жорстка выкрывае ўстоі ўсяго таго свету, які быў скупы на шчасце для працоўнага чалавека.

Малады пісьменнік Уладзімір Дадзіомаў даў сваёй першай аповесці такую-ж назву — «Над Нёманам».*) Але як не падобны лёс герояў гэтых двух твораў!

Усяго 16 год таму назад жыццё працоўных заходніх абласцей Беларусі было яшчэ такім-жа цяжкім і бязрадасным, як і ў канцы мінулага стагоддзя. І вось чытаеш старонкі аповесці Дадзіомава, старонкі аб новым жыцці заходніх абласцей Беларусі. І хоць у маладога пісьменніка няма таго майстэрства, як у Ажэшка, і хоць наша сённяшняе не заўсёды ва ўсёй сваёй велічы паўстае са старонак яго аповесці, але кантраст жыцця герояў гэтых двух твораў відавочны. Цяпер не ўбачыш зацчасна згорбленай спіны працоўнага чалавека і маршчын, якія ляглі на дзіцячы твары.

У Наднямонні настаў новы дзень.

Ул. Дадзіомаў так падае горад, у якім адбываецца дзея аповесці: «Рака падзяліла горад на дзве часткі. На правабярэжжы — цэнтральная частка горада. На гары над самым Нёманам узвышаўся старажытны замак-музей, крыху далей зіхацелі купалы двух касцёлаў, з заводскіх труб то тут, то там цягнуліся ўгару шызыя палосы дымкоў».

Дэталь аб двух касцёлах, якія віднеюцца побач з новымі фабрычнымі комінамі, як-бы пераклікаецца з тэмай усяго твору. У барацьбе новага са старым, у перамозе новага і заключаецца галоўны канфлікт аповесці.

Аляксею Калінку — літработніку прамысловага аддзела абласной рэдакцыі — дадзена заданне напісаць нарыс аб тэкстыльшчыках. Калінка прыходзіць на камбінат, глыбока вывучае жыццё прадпрыемства і бачыць, што ў горадзе два камбінаты. Адзін камбінат — сапраўдны, дзе працуюць рабочыя, дзе ў барацьбе і змаганні нараджаецца новае, перадавое, і другі — камбінат, збудаваны Міхасём Волiным на старонках газеты, дзе ўсё ідзе роўна, гладка. Калінка бачыць: тэкстыльшчыкі сапраўды выконваюць план. Але як? Штурмаўшчынай, метадам, даўно асуджаным нашай партыяй. І яго сумленне не дазваляе маўчаць. Замест станоўчага нарыса ён піша вострыя крытычны артыкул, падтрымліваючы тым самым перадавых рабочых прадпрыемства, якія вядуць барацьбу з няправільнымі метадамі работы на камбінаце.

Канфлікт на прадпрыемстве штурхае да канфлікта ў рэдакцыі. Паміж Калінкам і іншымі рэдакцыйнымі супрацоўнікамі разгараецца вострая барацьба. Загадчык прамысловага аддзела рэдакцыі Рыгор Тушын, са згоды якога ў газеце змяшчаліся павярхоўныя матэрыялы Міхася Воліна аб камбінаце, выступае супраць надрукавання артыкула Калінкі. Тушын не адзінокі. Яго падтрымліваюць і іншыя работнікі, якія страцілі пачуццё новага ў жыцці.

У абарону Калінкі выступае новы рэдактар Маршын. Артыкул надрукаваны. На камбінаце перабудоўваецца работа. Група тэкстыльшчыкаў едзе на купавінскую фабрыку для вывучэння перадавых метадаў працы. Але гэта не ёсць яшчэ вырашэнне канфлікта. Барацьбу ў рэдакцыі выкарыстоўваюць класавыя ворагі Казельскі, Жаравы. І варта было Калінку пазней напісаць нарыс аб тэкстыльшчыках, як яны арганізоўваюць непаладкі на камбінаце. У сваю чаргу, гэта праводзіць да таго, што Тушын, Парошын узнімаюць галовы. Цяпер ужо яны абвінавачваюць Калінку ў няправільным адлюстраванні жыцця тэкстыльшчыкаў, збіраюць розныя плёткі і ставяць пытанне аб выключэнні Калінкі з радоў партыі.

Але праўда перамагае. Паклёпнікі, нарэшце, выяўлены.

Аўтар нядрэнна здолеў паказаць у аповесці барацьбу новага са старым, паказаць два розныя, супрацьлеглыя погляды на жыццё. Калі для Воліна, Тушына, Пятрова — самае галоўнае сённяшні дзень, то для Калінкі, Анны і Ніны Дземях, Міхася Яснага не менш важным з'яўляецца заўтрашні дзень прадпрыемства. Калінка заўсёды імкнецца асэнсаваць сённяшняе з вышыні будучага, заўтрашняга, убачыць вядучыя тэндэнцыі.

Добра і тое, што аўтар імкнуўся звязаць барацьбу за новае з рэвалюцыйнымі традыцыямі заходнебеларускіх працоўных. Гэтаму ён адвёў нават асобны раздзел «Замест пралога». І вельмі шкада, што ў аповесці гэты раздзел выглядае ў нейкай ступені адарвана ад усяго твора. Хацелася, каб аўтар больш знаходзіў дэталей для паказу «тыповых абставін». Чытач не заўсёды адчувае, што дзея адбываецца ў былой Заходняй Беларусі.

Яшчэ ярчэй адчулі-б чытачы новы дзень Наднямоння, калі-б пісьменнік больш дбайна працаваў над кожным вобразам. Яны ўбачылі-б тады жывых, адметных адзін ад аднаго герояў. А чакаць ад Дадзіомава лепшага можна. Успомнім хаця-б Веру Качко. З аповесці мы яе ведаем па некалькіх рэпліках, але як праявіўся ў іх яе своеасаблівы, гарэзлівы характар!

Большую партыйнасць трэба было праявіць Ул. Дадзіомаву пры выкрыцці старога, аджыўшага. Пры абмалёўцы вобраза Зінаіды Корж, разбэшчанай, амаральнай дзяўчыны, аўтар задаволіўся толькі наглядальніцтвам. Ён не ўскрыў прычын, якія нарадзілі гэтыя рысы яе характару, і гэтым самым адступіў ад праўды жыцця. Да Зінаіды Корж прымыкаюць і Сяргей Ясны, і палкоўнік Кузьма Калінка.

Наш новы, багаты новымі фарбамі дзень нельга паказаць шэрай моваі. І шкада, што аповесць бедная на трапнае народнае слова, прыказку і багата газетнымі штампамі.

Аўтар вельмі часта паўтараецца. Вось прыклады толькі з двух першых старонак аповесці:

«... У шыбу нехта **асцярожна** пастукаў...»

«Зноў дзінькнула — раз, яшчэ два разы, — **асцярожна** і ў той-жа час патрабавальна».

«... па другі бок вуліцы, прыціснуўся да плота і **насцярожана** сачыў за ім нейкі чалавек».

«**Асцярожна** кранаючы вуснамі яго (свайго сына — **Ан. К.**) цёплую шчочку, бацька падумаў...»

«Дземях падышоў да яе (жонкі — **Ан. К.**), **асцярожна** ўзяў за плечы».

Два разы чамусьці спатрэбілася аўтару расказваць біяграфію Калінкі — у пачатку аповесці («Полымя» № 6, стар. 19 — 22) і ў канцы яе («Полымя» № 7, стар. 69).

Калі чытаеш аповесць, атрымліваецца ўражанне, што перад табой нядрэнны твор, але ў няўдалым, часамі адаптыраваным перакладзе.

Хочацца, каб перад выданнем аповесці асобнай кнігай аўтар яшчэ папрацаваў над яе ўдасканаленнем.

**Ан. КЛЫШКО,**
**студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.**

*) «Полымя» №№ 6 і 7 за 1955 год.

*Зрабі сам!*

# Мікра-ВЭС

Э. ЗАКРЖЭУСКІ,
інжынер

Мікра-ВЭС. Гэтае слова вы не знойдзеце ні ў слоўніку, ні ў энцыклапедыі. Так мы назвалі ветраэлектрастанцыю малой магутнасці. Пабудаваць такую электрастанцыю можа кожны, хто ўмее карыстацца інструментамі, а галоўнае валодае настойлівасцю.

З чаго трэба пачынаць будаўніцтва мікра-ВЭС?

Перш за ўсё неабходна набыць электрагенератар — дынамамашыну. Ад магутнасці дынама будуць залежаць і памеры ветрака.

Лепш за ўсё прымяняць аўтатрактарныя дынамкі магутнасцю ад 60 да 100 ват. Для такіх дынамак дастаткова зрабіць размах крылаў ветрака ў 1,2 — 2 метры. (Для дынамкі магутнасцю 250 ват спатрэбіцца вінт дыяметрам у 3 метры).

Падаем кароткую характарыстыку дынамак — генератараў, якія вы зможаце выкарыстаць пры будаўніцтве ВЭС (табліца 1).

касці абаротаў ветравога кола. Між тым, вецер бывае не заўсёды аднолькавы. Каб дабіцца найбольшай колькасці абаротаў якара дынамкі можна вал дынамкі і ветравога кола злучаць адпаведнай перадачай, якая павялічвае колькасць абаротаў дынамкі. Можна дабіцца павелічэння напружання і іншым шляхам. Так, калі ў дынамкі ГБФ і ГБТ даматаць да катушак узбуджэння па 40—50 віткоў провада ПЭ-1, то яны будуць даваць нармальнае напружанне і пры меншай колькасці абаротаў. Гэта вельмі важна, бо можна злучаць непасрэдна вал дынамкі і найбольш хуткаснага ветравога кола дыяметрам 1,2 метра.

Цяпер, калі вы знайшлі дынамку з усім неабходным абсталяваннем можна прыступаць да пабудовы ветравога кола — вінта. Аднак, перш за ўсё, малады канструктар-будаўнік павінен мець некаторыя звесткі, якія дапамогуць выбраць

Табліца 1

| Марка генератара | Магутнасць пры нармальнай колькасці абаротаў у ватах | Напружанне ўмоўных вольт | Напружанне нармальных вольт | Сіла току ў амперах | Абароты якара халастога ходу да пачатку рэгулявання ў мін. | Абароты якара пры нармальнай рабоце | Тып рэле |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аўтамабільныя: | | | | | | | |
| 1. ГБФ-4105 і ГБФ-4600 . . . . | 60—80 | 6 | 8 | 12—14 | 700 | 1500—1700 | ЦБ-4118 |
| 2. ГМ-71 і ГМ-71Т . | 100 | 6 | 8 | 17—19 | 850 | 2000—2300 | » |
| Трактарныя: | | | | | | | |
| 3. ГБТ-4541 і ГБТ-4692 . . . . | 65 | 6 | 6,5 | 10 | 850 | 1500—2100 | Рэгулятар ВР-4550 |
| 4. ГАУ-4101 і ГАУ-4684 (левага вярчэння) | 100 | 6 | 6,5 | 15 | 700 | 950 | » |

Як відаць з табліцы, трактарныя і аўтамабільныя дынамкі значна адрозніваюцца. Трактарныя дынамкі маюць напружанне 6,5 вольта і могуць працаваць без акумулятара, бо яны абсталяваны рэгулятарам. Аднак электрычны ток ад іх будзе паступаць да таго часу, пакуль круціцца ветрак. Каб святло было і ў безветранае надвор'е, неабходна паставіць акумулятар. Між тым, для зарадкі акумулятара неабходна напружанне ў 8 вольт. Як-жа павысіць напружанне трактарнай дынамкі? Гэта дасягаецца павышэннем колькасці абаротаў якара на 20 працэнтаў, або дабаўленнем віткоў да катушак узбуджэння. Адначасова рэгулятар дынамкі трэба ўстанавіць на 8 вольт.

Адначасова з устаноўкай акумулятара неабходна паставіць рэле адваротнага току тыпу ЦБ-4118. Рэле ставіцца для таго, каб ток ад акумулятара не ішоў у адваротным напрамку да дынама ў час яе бяздзеяння.

Аўтамабільныя дынамкі не маюць рэгулятара. Затое акумулятар служыць ім своеасаблівым рэгулятарам напружання. Таму пры рабоце з аўтадынамкамі неабходна мець акумулятар.

Напружанне залежыць ад коль-

найбольш падыходзячы па памерах вінт.

У наступнай табліцы (табліца 2) прыводзяцца магутнасці ветрарухавікоў з дыяметрам вінта 1,2; 1,5; 2 метры і ўказана колькасць абаротаў у мінуту гэтых вінтоў, каб можна было выбраць дыяметр вінта і разлічыць перадатачны механізм (шківы ці шасцяронкі) для нармальнай работы набытай дынамкі.

Найбольшая перавага ў вінта дыяметрам 1,2 метра; як бачна з табліцы, ён самы быстраходны (колькасць абаротаў у мінуту 660 — 890). Значыць, яго можна мантыраваць з дынамкай на адным валу. Аднак дынамка будзе даваць мала энергіі (пры хуткасці ветру 6 метр/сек. толькі 35 ват). Таму для дынамкі магутнасцю 60 ват падыходзіць вінт дыяметрам 1,5 метра. Затое, пры дыяметры 1,5 м. колькасць абаротаў вінта ў мінуту зніzіцца. Каб не зніzілася колькасць абаротаў дынамкі, неабходна прымяніць паскараючую перадачу-шківы. Шківок вінта павінен быць у дыяметры больш шківа дынамкі для ГБФ у 2,5—3 разы, а для ГБТ — у 2 разы.

Для дынамкі магутнасцю 100 ват трэба зрабіць вінт дыяметрам 2 метры, а шківы вінта для ГМ у

Табліца 2

| Дыяметр ветравога вінта ў метрах | Адзінка вымярэння | Хуткасць ветру метр/сек 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | Колькасць абаротаў ветравога вінта ў мінуту: Хуткасць ветру 6 м/с | Хуткасць ветру 8 м/с |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Д = 1,2 | конск. сіла | 0,014 | 0,028 | 0,048 | 0,077 | 0,115 | 660 | 890 |
| | ват | 10 | 20 | 35 | 56 | 85 | | |
| Д = 1,5 | конск. сіла | 0,022 | 0,044 | 0,075 | 0,12 | 0,18 | 540 | 710 |
| | ват | 16 | 32 | 55 | 88 | 132 | | |
| Д = 2 | конск. сіла | 0,04 | 0,07 | 0,135 | 0,215 | 0,32 | 400 | 530 |
| | ват | 29 | 51 | 100 | 160 | 230 | | |

**Магутнасць і колькасць абаротаў ветрарухавікоў у залежнасці ад хуткасці ветру пры каэфіцыенце выкарыстання ветру 0,3; кпд перадачы 0,8 і быстраходнасці $z = 7$.**

**Увага: адна конская сіла (к. с.) раўняецца 736 ват.**

5 разоў, а для ГАУ ў 2,5 раза больш шківкоў гэтых дынамак.

Узнікае пытанне: а як вызначыць хуткасць ветру? Хуткасць ветру можна вымераць спецыяльнымі прыборамі. Мы-ж даем рад прызнакаў, па якіх беспамылкова можна ўстанавіць хуткасць ветру.

v = 1,5 — 3 метр/сек. — ледзь прыкметна шамацяць лісты дрэў.

v = 4 — 5 метр/сек. — галіны дрэў хістаюцца.

v = 6—7 метр/сек.—вецце гнецца.

v = 8 — 9 метр/сек. — верхавіны дрэў гамоняць.

v = 10 — 11 метр/сек. — таполі гнуцца.

v = 12 — 14 метр/сек. — лісты і галінкі адрываюцца.

v = 15—16 метр/сек. — галіны ломяцца.

Каэфіцыент выкарыстання энергіі ветру ў крыльчатых ветрарухавікоў вагаецца ад 0,3 да 0,46 і залежыць ад тыпу і якасці крылляў (лопасцей). Чым больш крылляў, тым ветрарухавік ціхаходней. Крыльчатыя ветрарухавікі выкарыстоўваюць энергію ветру лепш другіх тыпаў ветрарухавікоў.

Узброіўшыся вышэйпрыведзенымі дадзенымі, пачынаем рабіць вінт. Пажадана рабіць яго з трох склееных сухіх дошчак. Клеены вінт больш трывалы. Ніжэй даецца апісанне вінта дыяметрам 1,2 метра, які ужо, як гаварылася, ставіцца на вось дынамкі. Калі вы будзеце рабіць вінт дыяметрам 1,5 метра, лінейныя размеры трэба павялічыць у 1,3 раза, а для вінта дыяметрам 2 метры — у 1,7 раза. Вуглы наклону не змяняюцца.

Дошкі для вінта выбіраюцца сухія, без сучкоў і без заган. Таўшчыня дошак — 12 мм. Шырыня — 125 мм. Даўжыня — 1250 мм. Пасля апрацоўкі дошак фуганкам, бакі, якія будзеце склейваць, трэба апрацаваць яшчэ буйнай шкляной паперай. Затым дошкі склейваюць казеінавым клеем, сціскаюць і сушаць. Атрыманы брус даводзяць фуганкам да таўшчыні 30 мм. Далейшую апрацоўку профілю робяць з дапамогай шаблонаў па пяці сячэннях, якія паказаны на малюнку 1.

Дакладнасць вырабу шаблонаў павінна быць высокай, таму што ад гэтага залежыць дакладнасць апрацоўкі вінта. Падгонка профіля пачынаецца з унутранага шаблону № 5. Рабочыя рэбры шаблона змазваюцца фарбай, на адбітку якой апрацоўваюць вінт. З дапамогай шаблонаў на загатоўцы стамескамі выбіраюцца раўчукі да неабходнага профілю, а затым па выбраных ручаўках апрацоўваецца ўся паверхня вінта

У час апрацоўкі ў вінт устаўляецца металічная ўтулка. Потым пры мантажы праз утулку праходзіць вось дынамкі альбо асобная вось, якая круціцца на шарыкавых падшыпніках пры перадачы руху ад вінта на дынамку рэменем. Таўшчыня восей для дыяметра 1,5 м— 30 мм, для 2 м. — 40 мм. Матэрыял — сталь.

Пасля апрацоўкі вінт неабходна дакладна адбалансаваць. Для гэтага неабходна ва ўтулку вінта ўставіць круглы точаны шпень і пакласці вінт на гарызантальныя апоры. Пры гэтым лопасці не павінны перацягваць адна другую. Цяпер вінт можна пафарбаваць.

Канчатковая балансіроўка вінта робіцца на валу дынамкі пры паднятых шчотках або на ўласнай восі без рэменя на шківах. Дакладная падгонка ажыццяўляецца за кошт некаторага праварачвання і зміяшчэння ўтулкі ў адтуліне вінта. Пасля канчатковай балансіроўкі ўтулка замацоўваецца да вінта шрубамі.

Для таго, каб ведаць, як размяшчаецца ў паветранай плыні лопасць вінта і які напрамак вярчэння будзе мець вінт, прыводзім схему становішча лопасці вінта. Лопасць рухаецца ў папярочным напрамку да плыні паветра напарад сваім тупым краем пры адмоўным вугле атакі, як паказана на малюнку 2.




Мал. 1.







Мал. 2.

Для ўстаўкі і праверкі заклінення лопасцей служаць вугламеры. Калі іх няма, варта падрыхтаваць маштабныя кліны. Пры даўжыні маштабнага кліна 200 мм (па баку, які прылягае да прамога вугла) адзін канец кліна робіцца вострым, а другі будзе мець наступную таўшчыню ў залежнасці ад вугла.




Для вугла 4°—14 мм, 5°—17,5 мм, 6,5° — 23 мм, 10,5° — 37 мм і для 14,5° — 52 мм.

На малюнку чарцёж кліна з вуглом у 14,5°.

Для таго, каб устанавіць больш роўнамерную хуткасць вярчэння, захаваць ветрарухавік ад буры, ён забяспечваецца рэгулятарамі колькасці абаротаў і прыстасаваннямі для спынення ветрака ў час буры.

Мы ўжо казалі, што рэгулятарам з'яўляецца акумулятар. Аднак акумулятар бяссільны пры высокіх хуткасцях ветру. Да таго, моцны вецер наогул можа зламаць ветрак. Таму рэгулятары абавязковы. Іх існуе многа. Апішам толькі тры тыпы. Першыя два регулятары заснаваны на тармажэнні паветраныímі клапанамі.

Як іх будаваць, відаць з малюнкаў 3 і 4, таму мы падрабязна пра гэта не пішам. Рэгулююцца абодва рэгулятары нацяжэннем спружын. Пачатак тармажэння, г. зн. адкрыццё клапанаў або паварот галоўкі, трэба ўстанавіць на хуткасць ветру 8—9 м/сек.

Трэці рэгулятар — рэгуляванне вывадам з-пад ветру ветравога кола бакавой лапатай, г. зн. плоскасцю, якая знаходзіцца на адным з бакоў каля ветравога кола. Да пачатку рэгулявання дауленне ветру на бакавую лапату ўраўнаважваецца сілай спружыны. У пачатку рэгулявання даўленне ветру пераадольвае сілу спружыны і лапата, адхіляючыся па ветру, паварочвае галоўку, падстаўляючы ветравое кола рабром да ветру часткова ці поўнасцю. Пры моцным ветры ветравое кола зусім спыняецца. Для ветрарухавіка дыяметрам 2 м. плошча бакавой лапаты павінна быць каля 0,15 кв. м. Плошча хваста—кала 0,4—0,5 кв. м.

У ветрарухавіках без паваротнай галоўкі, г. зн. без рэгулявання бакавой лапатай, для таго, каб спыніць ветравое кола на час буры або рамонту, трэба ўстанавіць звычайны тормаз. Для гэтага да ступіцы вінта прымацоўваецца шківок з тармазной лапатай. Ад заціскачкі-клямара тармазной стужкі адводзіцца цяга да рэйкі, якая ўтрымлівае хвост. На рэйцы ставіцца ролік або шарнірны рычаг, праз які цяга апускаецца ўніз. Пры нацягванні стужка затармозіць і спыніць вінт. Каб стужка не цёрлася аб шківок пры адпушчанай цязе, ставіцца спружына, якая рассоўвае стужку. Для таго, каб можна было пакінуць рухавік у затармажаным становішчы, трэба зрабіць зашчапку рычага тармазной цягі і ад яе апусціць другую дротавую цягу. Нацягнуўшы тормаз, зашчапка будзе ўтрымліваць яго ў гэтым становішчы. Пацягнуўшы за цягу зашчапкі, зашчапка вызваліць тормаз, а спружына рассуне тармазную стужку і вызваліць вінт.

Пры будаўніцтве ВЭС неабходна звярнуць увагу на трываласць галоўкі ветрарухавіка. Галоўка ўстанаўліваецца на вяршыні слупа




**а) Тарцавы паветраны клапан.**
**б) Схема дзеяння клапана.**

Мал. 3.

таўшчынёй 10 — 12 см і вышынёй крыху вышэй акаляючых дрэў і пабудоў.

Ветрарухавік складаецца з паваротнай галоўкі і драўлянага кораба, на якім утрымліваецца галоўка. Галоўка складаецца з двух гарызантальных рэек з прымацаваным да іх кавалкам вертыкальнай жалезнай трубы, дыяметрам 50—



**а) Бакавыя паветраныя клапаны.**
**б) Схема дзеяння клапана.**

Мал. 4.

75 мм. На кароткі канец рэек прымацоўваецца дынамка і паветраны вінт. На доўгім канцы рэек робіцца абшыўка з тонкіх дошчак, якая служыць хвастом для аўтаматычнай установкі галоўкі на вецер. Труба служыць асновай і воссю павароту галоўкі. На трубу пад рэйкай ставіцца невялікі жалезны круг, якім галоўка абапіраецца на кораб. Пад гэты круг пажадана паставіць шарыкавы апорны падшыпнік, які лёгка зрабіць. Праз паласць трубы прапускаюцца правады ад дынамкі ўніз. Труба галоўкі ўваходзіць у кораб прыкладна да паловы яго даўжыні па цэнтру кораба і круціцца ў драўляных папярэчных брусках кораба. У адтуліны трэба ўставіць жалезныя ўтулкі, каб пазбегнуць хуткага зносу адтулін. Даўжыня кораба 1,5—2 метры. Кораб мацуецца да вяршыні слупа.




**Рэгуляванне бакавой лапатай.**

Пры акумулятары ёмкасцю 60 ампер/гадзін можна нагрузіць 8—10 шасцівальтовых лямпачак магутнасцю 4 ваты. У малаветраны час трэба ўключаць менш лямпачак, каб зараду акумулятара хапіла на большы час.

У схеме прадугледжаны пускавы ўключацель (пускавая кнопка). Звычайна пры сярэднім ветры паветротны вінт сам не кратаецца з месца, патрабуючы разгону. Для таго, каб надаць ветраку некаторую хуткасць, пускавой кнопкай закарачваюцца кантакты рэле зваротнага току. Ток ад акумулятара накіроўваецца ў дынамку, дынамка пачынае круціцца і круціць вінт. Пускавая кнопка ўключаецца на 10—20 сек. Затым, адпусціўшы кнопку, трэба адключыць выключацель 7а, разгрузіўшы дынамку для аблягчэння вінта, пакуль ён набярэ нармальную колькасць абаротаў.

Рэле зваротнага току трэба ставіць не на дынамку, а на шчыту ў памяшканні. Гэта дае магчымасць весці ад дынамкі да шчыта толькі два правады.




**Схема галовак ветрарухавіка з рознай пасадкай вінта.**

**Электрычная схема ВЭС.**

**1 — Дынамка. 2. — рэле зваротнага току. 3 — акумулятар. 4 — амперметр. 5 — вольтметр. 6 — засцерагальнікі. 7 — выключацелі. 8 — пускавая кнопка. 9. — асвятляльныя лямпачкі.**





На здымку: у чырвоным кутку калгаса «Новае жыццё»

# У нас, у чырвоным кутку...

Ул. МАЯРОВІЧ

Неспакойная праца ў жывёлаводаў. Раней за другіх яны ідуць на работу і пазней за ўсіх з работы. Здаецца, ім няма калі кінофільм паглядзець, кнігу пачытаць. Але паспрабуйце сказаць аб гэтым Таісе Кароль або Валі Астрэйка. Яны засмяюцца шчыра, весела:

— Няпраўда. Мы і кнігі, і газеты чытаем, і радыё слухаем, нават у харавым гуртку спяваем.

І зноў чуецца смех, жарты.

Вялікі пакой чырвонага кутка малочна-таварнай фермы заліты яркім электрычным святлом. У крэслах і на лаўках паселі жывёлаводы. Адны слухаюць канцэрт па радыё, другія праглядаюць у бібліятэцы часопісы, брашуры. Вунь за сталом сядзяць пажылыя свінаркі Зінаіда Іванаўна Кароль і Наталля Казіміраўна Кароль. Яны таксама прышлі на ферму паслухаць, што будзе расказваць экскурсантка Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі Таіса Кароль. Крыху воддаль, за другім сталом, над шахматнай дошкай схіліліся Вячаслаў Вайцаховіч і Іван Жук. Ля іх і Аляксандр Антонавіч Вайцаховіч — конюх, відаць, вялікі аматар шахматнай гульні.

У пакой уваходзяць Таіса Кароль, Валя Астрэйка, Марыя Кароль, следам за імі — сакратар партарганізацыі Мікалай Іосіфавіч Чайкоўскі і старшыня калгаса Васіль Канстанцінавіч Пруднікевіч.

— Вось мы вам і «масквічку» прывялі, — перастуліўшы парог, пажартаваў Васіль Канстанцінавіч.

— Мы і сабраліся паслухаць, што яна нам раскажа, — пачуліся галасы.

— Што-ж, давай, Таіса, смялей, — падбадзёрыў яе загадчык чырвонага кутка Міхась Шырко.

Таіса падыйшла да стала. Яна хвалявалася, чырвань залівала яе бялявы малады твар.

Спачатку яе голас гучаў неяк нясмела, потым ён нібы набраўся сілы, зрабіўся роўным, упэўненым. Яна гаварыла:

— Няхай тут не крыўдуюць на мяне, калі я скажу, што дрэнна мы яшчэ працуем...

Таіса падрабязна расказала пра поспехі даярак калгаса «XII Кастрычнік» Кастрамской вобласці, які дэманстраваў свае дасягненні ў павільёне «Жывёлагадоўля». Там на кожную карову надоена пяць тысяч літраў малака.

Да позняга вечара ў чырвоным кутку працягвалася шчырая гаворка.

Многа было ў свой час у калгасе размоў аб стварэнні на ферме чырвонага кутка. Васіль Канстанцінавіч аднойчы сустрэў старшага бухгалтара калгаса комуніста Паўла Труса. Пайшлі далей разам.

— Добра працуюць нашы людзі, Павел, а вось для іх мы не ўсё робім, — заўважыў Васіль Канстанцінавіч.

— Як не ўсё? Спецвопратку даем, абуткам забяспечваем, дадатковую аплату яны атрымліваюць...

— Гэта, братка, яшчэ не ўсё. Аб іх культурным адпачынку мала дбаем. Прыходзіць жанчына, напрыклад, раніцай на кормакухню, падпаліць у печы і сядзіць у духаце, чакаючы, пакуль вада закіпіць, бульба зварыцца. А ці не лепш было-б, каб гэты час яна пабыла ў чыстым, цёплым памяшканні, пачытала газету ці радыё паслухала. Вось мы будуем кормакухню. А што, каб прыбудаваць да яе трысценак і там зрабіць чырвоны куток? Сродкаў не вельмі шмат пойдзе.

Неўзабаве цесляры на цэнтральнай ферме калгаса пабудавалі новае памяшканне. Тут і зрабілі чырвоны куток.

Даяркі Таіса Кароль, Валя Астрэйка, Лідзія Ярмоленка, Маіна Кароль прывялі памяшканне ў парадак: абклеілі шпалерамі сцены, памылі падлогу, на вокнах павесілі фіранкі. І калі ў куток зайшлі Васіль Канстанцінавіч Пруднікевіч разам з інструктарам райкома партыі па зоне Пагранічнай МТС Яўгеніем Кісялёвым, не маглі яны не пахваліць дзяўчат за стараннасць. Неўзабаве ў пакой паставілі мэблю. Комсамольцы намалявалі і павесілі лозунгі, плакаты.

Звяртае на сябе ўвагу і пераходны чырвоны сцяжок з надпісам: «Перадавой даярцы — пераможцу ў спаборніцтве». Ён уручаецца той даярцы, якая дасягнула лепшых вынікаў па надою малака за 10 дзён.

Так паступова чырвоны куток на жывёлагадоўчай ферме стаў не толькі месцам культурнага адпачынку жывёлаводаў, але і цэнтрам масава-палітычнай работы. Сюды прыемна зайсці. У вольны ад работы час жывёлаводы чытаюць тут газеты, часопісы, слухаюць радыё. Часта праводзяцца гутаркі, даклады. Загадчык чырвонага кутка комуніст Міхаіл Паўлавіч Шырко ўдумліва плануе, хто і калі павінен выступаць з лекцыяй або гутаркай, хто павінен адказваць за выпуск «баявога лістка», хто правядзе чытку газеты або кнігі. Выступаючы на калгасных сходах, ён звычайна з гордасцю пачынае: «У нас, у чырвоным кутку...» — і расказвае аб цікавай культурна-асветнай рабоце сярод жывёлаводаў.

Уздзенскі раён,
калгас «Новае жыццё».

З нашай пошты

# Звяры зімою

Зіма з яе лютымі марозамі, завірухамі, глыбокім снегам, адсутнасцю зялёных раслін — цяжкі час для звяроў.

Па глыбокім снезе бягуць ваўкі. Яны шукаюць здабычу. Гавораць, што «ваўка ногі кормяць». Вывадкамі шныраюць яны ўсюды і жывяцца ўсім, што трапляецца на шляху: і сабачынай, і канінай, і авечкамі, і лісамі, і зайцамі.

У полі ліса старанна капае снег у пошуках мышэй. Знаходзіць іх яна амаль беспамылкова, дзякуючы свайму нюху. Нярэдка трапляюць ёй на абед і зайцы, што зазяваліся, і нават вавёркі. Лісінае жыллё зімою цёплае і ўтульнае: ліса робіць яго ў глухой частцы лесу, на беразе рову, або ў старым акопе і глыбока ў зямлю хавае сваю нару.

Для зайца сховішчам зімою з'яўляецца снег, у які, як пад цёплую ватовую коўдру, ён закопваецца глыбока і надзейна. Вось харчу для яго зімой малавата, і замест сакавітай зялёнай травы прыходзіцца задавальняцца толькі карой зваленых на зямлю асін і вярбы, ды часам маладымі парасткамі хмызняку. За зіму згаладалыя зайцы выгрызаюць усё гэта дачыста. У непагодлівыя дні з ветрам і снегападам, у буран зайцоў не пабачыш: па некальк і сутак адлежваюцца яны пад снегам, і чым больш снегу намятае над імі, тым цяплей ім у іх сховішчах.

А ў вавёркі на зіму зусім змяняецца поўсць: кароткая, рэдкая, рыжая летам, зімою яна — густая, цёплая, шэрая, добра маскіруючая яе на снезе. Толькі вельмі суровае надвор'е, завіруха і моцны мароз, утрымліваюць вавёрку ў яе жыллі — дупле або гнязде, дзе яна чакае добрага надвор'я ў поўдрымотным стане. У сонечны, ціхі зімовы дзень можна пачуць у лесе, як весела лушчаць вавёркі арэхі і шышкі, і пабачыць самога звярка, які, шчыльна прытуліўшыся да ствала, насцярожана і з цікавасцю пазірае на цябе сваімі бліскучачорнымі вочкамі. Жывіцца вавёрка насеннем яловых і сасновых шышак, арэхамі, жалудамі, дастаючы ўсё гэта з-пад снегу і беспамылкова вызначаючы пры гэтым месцы падснегавых запасаў. А на ўсякі выпадак заўсёды ёсць у вавёркі не малы запас ежы, нарыхтаваны яшчэ летам: і арэхі, і нават сушаныя грыбы, якія яна для прасушкі лоўка накалвае на галінкі дрэў. Вельмі, вельмі патрэбны бываюць зімой вавёрцы яе гаспадарчыя нарыхтоўкі!

Сляды мышэй, у выглядзе маленькага ланцужка ёлачкай, рэдка сустракаюцца на снезе. Дзе-ж жывуць усю зіму гэтыя звяркі? Глыбока пад снегам, ля самай паверхні зямлі. Там зімою зроблена імі шмат ходаў-траншэй. Шныраюць па іх мышы ў розных напрамках, падбіраючы рэшткі насення раслін, што асыпалася восенню, выгрызаючы з замерзлага грунту карэнне розных траў.

Мядзведзь, барсук, усурыйскі янот зусім інакш паводзяць сябе зімою. Назапасіўшы за лета і восень вялікую колькасць тлушчу, мядзведзь, як толькі пачынаецца зіма, падрыхтоўвае ў гушчары, а часцей за ўсё ў бураломе, бярлог, у якім і дрэмле ўсю зіму, паступова выдаткоўваючы прызапасены тлушч. За зіму ён траціць ад 3 да 5 пудоў сваёй вагі. У мядзведжым берлагу не адчувае ён ні лютай пургі, ні марознага ветру. Калі звонку 20° марозу, у берлагу мядзведзя 2—3° цяпла.

Зусім іншае наглядаецца ў час зімовай спячкі ў суслікаў, бурундукоў, вожыкаў, кажаноў, соні, сурка і іншых. Іх спячку характарызуе глыбокае аняменне. Калі зімою здараецца раскапаць сусліка ці вожыка, нам здаецца, што звяры гэтыя мёртвыя. І сапраўды: звернутае клубочкам, халоднае навобмацк, без бачных дыхальных рухаў цела такога звярка зусім не нагадвае жывую істоту. І ўсё-ж такі гэты звярок — жывы.

Зімовая спячка, здаецца, самае значнае і цікавае з таго, як прыстасоўваюцца звяры да неспрыяльных умоў жыцця. Мы расказалі аб зімовай спячцы толькі млекакормячых. Але спячка ўласціва і іншым класам пазванковых жывёл, таксама як і вельмі многім беспазванковым.

Ю. ПЯТРОЎСКІ.

# Да слаўнай гадавіны

«1905 год» — так названа новая работа маладых скульптараў, братоў Марка і Льва Роберманаў. Калі глядзіш на гэтую скульптуру, міжволі ўспамінаеш цэлы шэраг сялянскіх вобразаў, створаных майстрамі рускага рэалістычнага жывапісу другой паловы XIX стагоддзя. Не, гэта ўжо не той «мужык», які абівае парогі «парадных пад'ездаў», чакаючы адказу на прашэнне. Ён ужо чуў пра тое, як крывёю рабочых, якія прышлі да цара прасіць хлеба і свабоды, былі заліты вуліцы Пецярбурга. Магутныя раскаты вялікай рэвалюцыйнай буры данеслі да яго слыху грозны кліч рускага пралетарыята: «Да зброі!» І вось ён стаіць, абуджаны працаўнік Расіі, поўны гневу і рашучасці змагацца за свае чалавечыя правы. Праўда, энергія і сіла яго яшчэ напалову захавана, яна яшчэ не праявілася ў магутным парыве да зусім канкрэтнай мэты, але ўжо верыш, што гэта тая сіла, якая ў адзіным намаганні з пралетарыятам здольна змесці царскае самадзяржаўе.

Фото І. Берліна.



# ДЛЯ адпачынку

## РАССТАЎЦЕ ЛІЧБЫ

Расстаўце ў кружках лічбы ад 1 да 25 так, каб сума лічбы 1905 і чатырох лічбаў у кожным з 16 ромбаў раўнялася лічбе новага года — 1956.




## КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключом, прачытайце загадку і адгадайце яе.



### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 12 ЧАСОПІСА.

**Па гарызанталі:** 4. Архангельск. 8. Ізмаіл. 9. Ураган. 10. Караст. 11. Крэйда. 12. Чэрскі. 14. Барыт. 15. Прага. 18. Сахара. 19. Гейзер. 22. Амур. 23. Атлас. 25. Квант. 27. Маса. 32. Асот. 33. Штыль. 34. Кітай. 35. Чылі. 36. Мармур. 39. Арарат. 42. Аргон. 44. Акіян. 47. Сектар. 49. Байкал. 51. Урома. 52. Сапфір. 53. Макака. 54. Пржэвальскі.

**Па вертыкалі:** 1. Балканы. 2. Глетчэр. 3. Ізабара. 4. Алоэ. 5. Горст. 6. Курс. 7. Насенне. 11. Кура. 13. Іней. 14. Банан. 16. Агава. 17. Ламаносаў. 18. Сера. 20. Румб. 21. Аўстралія. 24. Тыбет. 26. Нарва. 28. Атам. 29. Флора. 30. Цітан. 31. Шчыт. 37. Арзамас. 38. Марс. 40. Атол. 41. Арктыка. 43. Обручэў. 45. Кобальт. 46. Крона. 48. Карп. 50. Комі.



## КРАСВОРД

Склала Антаніна Валодзька

**Па гарызанталі:** 1. Частка свету. 4. Мужнасць. 7. Новае слова. 10. Моцны плач. 11. Капа саломы, сена. 12. Горад у СССР. 13. Пісьменнік, які піша вершы. 15. Сістэма правадоў для выпрамянення электрамагнітных хваляў. 17. Рашаючае становішча ў шахматнай гульні. 18. Вуснае або пісьмовае паведамленне. 23. Мерапрыемствы па догляду за скурай чалавека. 25. Галоўная артэрыя. 26. Апавяданне А. Чэхава. 27. Партовае збудаванне. 28. Вершаваны размер. 29. Вадкасць для засолкі прадуктаў. 32. Магазін. 33. Ваенны параход з самалётамі. 34. Лясны шкоднік. 36. Лік. 37. Чалавек, які складае і спявае песні. 42. Жыхар краін Блізкага Усходу. 43. Урачыстая песня. 44. Частка круга. 45. Рака ў Малой Азіі. 46. Устарэлая назва вялікай вобласці ў Сярэдняй Азіі. 47. Дзікая жывёла. 48. Спаборніцтва ў шахматнай гульні.

**Па вертыкалі:** 1. Атмасферная з'ява. 2. Рэстаўрацыя. 3. Гатунак яблык. 4. Партовы горад у Галандыі. 5. Гістарычны крэйсер. 6. Мінерал. 8. Твор Я. Маўра. 9. Краіна ў Сярэдняй Азіі. 14. Частка гарматы. 16. Галіна матэматыкі, якая дае тэорыю і спосабы пабудовы асобных чарцяжоў. 19. Поўны або частковы зварот страт, прынесеных вайною. 20. Саюзная рэспубліка. 21. Адрэзак, які злучае два пункты круга. 22. Напрамак. 24. Апавяданне М. Лынькова. 30. Геаграфічная назва. 31. Адзінка сілы электрычнага току. 32. Састаўная частка. 34. Частка жаночага адзення. 35. Карэспандэнт. 38. Нервовая клетка. 39. Кіраўнік універсітэта. 40. Сталіца дзяржавы ў Афрыцы. 41. Выдатны венгерскі кампазітар.




---

На першай старонцы вокладкі:
**— З Новым годам! З новым шчасцем! Тэлеграфістка Мінскага тэлеграфа комсамолка Вера Ермоленка вядзе прыём і перадачу віншавальных тэлеграм.**

Фото А. Дзітлава.

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Выпаў снег.**

Фото М. Ананьіна.

---

**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость».**
**Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.**

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара — 93-648, намесніка рэдактара — 93-592, адказн. сакратара — 93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі — 93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі — 93-985, аддз. ілюстрацый — 93-892, аддзел пісем — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₈. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Здадзена ў набор 13.XII.55 г. Падпісана да друку 30.XII.55. г.

Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб.

АТ 06368. Заказ 787.

**Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.**

**Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.**



Добра працуе гурток юных географаў у другой сярэдняй школе горада Віцебска. Гуртком кіруе выкладчык геаграфіі комсамолка Генрыэта Фёдараўна Немаляева.

Гурткоўцы склалі гербарый роднага края, праслухалі даклады аб кітабойнай флатыліі «Слава», аб рабоце дрэйфуючых станцый. Даклады суправаджаліся паказамі вузкаплёначных фільмаў. З вялікай цікавасцю гурткоўцы сочаць за работай навукова-даследнай экспедыцыі ў Антарктыцы.

На здымку: члены гуртка юных географаў вучні VII класа Галіна Радчанка, Жана Мядзведзева, Галіна Прудпікава і Барыс Заблоцкі.

Фото С. Чырэшкіна.

